№ 34 (919) 16 верасня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. Старонка 2.

## Рэаліці-шоу на хутары

У засценку Васіля Грыня аздымалі вясковы «Апошні герой». Старонка 8.



# Лявону Вольскаму — 50

На фота: Лявон Вольскі на радзіме Васіля Быкава ў Бычках (Віцебская вобласць). Ліпень 2015

Але юбілейны канцэрт ён даў… у падземным пераходзе ў Мінску. Залы яму забароненыя. Што ж, і ў пераходзе на спеў сучаснага Гусляра імгненна сабраліся паўтары сотні людзей. Старонка 12.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Караткевіч: «Лукашэнка стаміўся. Яму варта адпачыць»

Пры гэтых словах Ярмошыну **аж скрывіла**.

Гэтым разам рэгістрацыя кандыдатаў на пасаду прэзідэнта прайшла з меншым размахам, у будынку Цэнтрвыбаркама, а не ў Палацы Рэспублікі, як у 2010 годзе. Лідзія Ярмошына дагэтуль пакрыўджаная, што тады Павел Севярынец не паціснуў ёй руку, забіраючы пасведчанне Рымашэўскага. Таму, маўляў, вагалася, ці ладзіць урачыстую цырымонію.

Незразумела на што спадзеючыся, у залу пасяджэнняў першай прыйшла Жанна Раманоўская, яна не здолела сабраць 100 тысяч подпісаў. За ёй з’явіліся Мікалай Улаховіч, Сяргей Гайдукевіч і Таццяна Караткевіч.

Лукашэнка працягнуў... на праігнараваў мерапрыемства, адправіўшы замест сябе прафсаюзніка Міхаіла Орду. У 2006 годзе, калі кіраўнік дзяржавы прыйшоў на рэгістрацыю, яму давялося праслухаць прамову Аляксандра Казуліна пра «расстрэльную каманду». Таму сёлета ў час пасяджэння ЦВК Лукашэнка меў сустрэчу з біятланісткай Дар’яй Домрачавай.

Першай выступіла Лідзія Ярмошына. Прысутных чакала доўгая і марудная справаздача аб кампаніі збору подпісаў у рэгіёнах. Сакратар ЦВК Мікалай Лазавік у сваім выступе сказаў, што варта зрабіць этап збору подпісаў яшчэ больш ліберальным, каб кандыдаты маглі лягчэй сабраць неабходную колькасць подпісаў. Юрыдычныя перашкоды ў будучыні будуць скасаваныя, упэўнены сакратар ЦВК.

Раманоўская на развітанне зачытала з трыбуны «Пагоню» Багдановіча. Але гэта не дапамагло — у рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты ёй адмоўлена.

Працяг на старонцы 6.

Перадвыбарная праграма Таццяны Караткевіч «За мірныя перамены» — старонка 3.

## Узорны доктар з групы падтрымкі Лукашэнкі

Гісторыя жыцця трансплантолага Алега Румо. Старонка 4.

## Беларусь уратуе настаўнік

Піша Андрэй Дынько. Старонка 8.

# Бяляцкі: Лукашэнка будуе фасадную дэмакратыю, і гэтаму нельга верыць

У сваім выступе на штогадовай канферэнцыі «Форум 2000» у Празе праваабаронца Алесь Бяляцкі ўказаў на неабходнасць пашырэння Еўрасаюза на ўсход, а таксама раскрытыкаваў тактыку «няшчырай дэмакратыі» з боку рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

«Менш як месяц таму ў Беларусі былі вызваленыя ўсе палітычныя зняволеныя. Рэжым адступіў — пасля націску еўрапейскай супольнасці, пасля пратэстаў у самой краіне — зрабіў паўкроку назад, — заявіў кіраўнік забароненага беларускімі ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна». — Але гэта тактычная саступка, тактычная перамога. Праз месяц у Беларусі будуць праходзіць чарговыя прэзідэнцкія выбары, і Лукашэнка ідзе пяты раз на гэтыя выбары. І мы не сумняваемся, што выбары будуць сфальсіфікаванымі».

Ён таксама нагадаў пра знешнія пагрозы для Беларусі. «Апошнія два гады мы назіраем, як развіваецца канфлікт паміж Расіяй і Украінай. Анексаваны Крым, ідзе практычна вайна на Данбасе. Расія працягвае нарошчваць імперыялізм, і ўзнікае пытанне: хто наступны?» — сказаў Бяляцкі.

**БелаПАН**

## Лукашэнка спадзяецца на кітайскія $7 мільярдаў

Кіраўнік Беларусі заявіў, што падчас сустрэч з кітайскім кіраўніцтвам было пацверджана выдзяленне Беларусі $3 мільярдаў ільготных крэдытаў і $4 мільярды камерцыйных.

«Гэтыя $7 мільярдаў трэба асвойваць у цяжкія часы, у тым ліку за кошт гэтага прайсці крызісныя гады», — мяркуе Аляксандр Лукашэнка.

Лукашэнка лічыць, што Беларусь стала для Кітая асноўнай у Еўропе пляцоўкай для рэалізацыі ініцыятывы эканамічнай зоны Шаўковага шляху.

**Цыт. БелТА**

### Прыватныя абвесткі

**Здаю пакой студэнту**
Пакой студэнту па вуліцы Данілы Сердзіча недалёка ад станцыі метро «Пушкінская». Тэл. (033) 665-97-09.



**Мова Нанова Дзеткам**
Запрашаем на бясплатныя курсы беларускай мовы для дзяцей і іх бацькоў — Мова Нанова Дзеткам. Кожную нядзелю! Увага: можна далучыцца з любога дня!
Заняткі ў цэнтры горада — галерэя сучаснага мастацтва «Ў» (пр-т Незалежнасці, 37)
Група дашкольнікаў — 4-6 год — 11.00, група школьнікаў — 6-10+ — 12.00.
Загадкі і чыстагаворкі, гульні і песні, цікавыя размовы з незвычайнымі людзьмі — сямейнае пагружэнне ў мову, сяброўства з аднадумцамі, захапляльная вандроўка да сябе — беларуса!

**Студыя беларускай народнай вышыўкі запрашае на заняткі**
Майстар народнай творчасці Рудніцкая Галіна запрашае ў студыю беларускай народнай вышыўкі.
Заняткі з кастрычніка па красавік раз на тыдзень (ранішняя і вячэрняя групы) па адрасе: Мінск, вул. Гікалы, 4 (станцыя «Плошча Якуба Коласа»).
Для іншагародніх магчыма інтэнсіўнае навучанне.
Заняткі 2 разы на месяц па суботах з лістапада па сакавік.
Кантакты: (029) 171-13-90.

# Сабака вывеў на забойцу трох прадавачак

28-гадоваму выхаванцу дзетдома **пагражае расстрэл**.

У Гродне пачаўся працэс па справе аб забойстве трох прадавачак у Лідскім раёне. На лаве падсудных — 28-гадовы Іван Кулеш.

45-гадовая Алена Чарнавусава больш за 20 гадоў адпрацавала выхавацелькай у дзіцячым садку, а калі яе скарацілі, вымушана была пайсці на працу прадаўцом. Крама знаходзілася ў прыватным сектары.

Разам з Аленай на змене была яе 56-гадовая калега.

Па версіі следства, 15 верасня 2013 года Іван Кулеш, знаходзячыся нападпітку, нанёс прадавачкам шматлікія ўдары металічнай трубой. Ад атрыманых траўмаў абедзве жанчыны памерлі на месцы. Зламыснік вынес з крамы тавары і грошы на агульную суму больш за 37 мільёнаў рублёў. Да злачынства ён рыхтаваўся загадзя, прадумаў шляхі адступлення.

28 лістапада 2014 года Лідскі раён зноў узрушыла навіна аб жорсткім забойстве прадаўшчыцы, на гэты раз у вёсцы Сялец.

44-гадовая Жанна Урбан дзесяць гадоў прапрацавала ў сельскай краме. Па словах сына Аляксея, у краме даўно не дзейнічала сігналізацыя. Кіраўніцтва не рамантавала яе, таму ключы ад крамы прадавачка насіла з сабой.

Калі маці ў час не вярнулася дадому, сын не турбаваўся, бо чуў, што ў краму мусіла прыехаць рэвізія. Занепакоіўся, толькі калі пачаў брахаць сабака, які звычайна вяртаўся з маці.

Сабака павёў Аляксея ў лес, дзе той убачыў кроў каля сцежкі. «Я пабег да крамы. Зайшоў унутр, дзверы былі адчыненыя. Уключыў святло і ўбачыў, што ў краме ўсё раскідана. Потым нечакана заўважыў, што там сядзіць Кулеш. Ён падышоў да мяне з нажом у руках і сказаў, каб я кінуў тэлефон. Я рэзка развярнуўся і кінуўся бегчы».

Калі Аляксей стаў клікаць на дапамогу, зламыснік перастаў яго пераследаваць. «Я адразу выклікаў міліцыю, сказаў, што ў краме рабаванне. Потым я думаў пра кроў у лесе, вырашыў туды вярнуцца», — узгадвае ён.

Аляксей першым знайшоў цела маці. Яна загінула ад шматлікіх удараў сякерай. Злачынец забраў у яе мабільны тэлефон і пакет, дзе былі ключы ад крамы.

У самой краме зніклі не толькі грошы, але і тавар на 8 мільёнаў. Як і ў першым выпадку, па версіі следства, Іван Кулеш у момант здзяйснення злачынства быў п'яны.




Кулеш адмовіўся даваць паказанні. «Там усё напісана ў справе, суду лепш відаць», — паўтарыў ён некалькі разоў.

Абвінавачаны нарадзіўся ў Баранавіцкім раёне, выхоўваўся ў дзіцячым доме. Скончыў дзевяць класаў, вучылішча кінуў.

Першы раз быў асуджаны ў 18 гадоў — за крадзеж і разбой — на шэсць гадоў і адзін месяц пазбаўлення волі. Другі раз быў асуджаны за ілжывы данос у верасні 2014 года, ужо пасля таго, як у Лідзе адбылося падвойнае забойства. Тады яго прысудзілі да штрафу, але ён яго так і не пагасіў.

Хоць прапісаны Кулеш у Баранавіцкім раёне, апошнія гады ён жыў у Лідскім раёне. Паспеў пазнаёміцца з дзяўчынай, якая ў 2013 годзе нарадзіла ад яго дачку. Але з-за канфліктаў пакінуў сям'ю, жыў у знаёмых у вёсцы Сялец. Афіцыйна нідзе не працаваў, перабіваўся тым, што збіраў грыбы і дапамагаў па гаспадарцы жыхарам вёскі.

Куляшу пагражае смяротнае пакаранне. Сваякі забітых выступаюць за гэта. Канчатковае рашэнне па справе прыме суд.

**Паводле Naviny.by**



### Сціслa

**Сіўчык вярнуўся ў Беларусь**
Актывіст апазіцыі, які пасля Плошчы-2010 з'ехаў у Кіеў, вярнуўся ў Мінск. Сіўчык атрымаў вядомасць у 1996 годзе, калі быў арыштаваны пасля Чарнобыльскага шляху. На 21 дзень галадоўкі быў вызвалены пад ціскам міжнароднай супольнасці.

**У Каменным Логу затрыманыя 40 мытнікаў**
Расследаванне справы аб карупцыі ў дзейнасці Ашмянскай мытні працягваецца. Паведамлялася пра затрыманне 19 чалавек, у якіх канфіскавалі больш за $2,2 мільёна. Як выявілася, пасля былі затрыманыя яшчэ два дзясяткі службоўцаў.

**Лукашэнка выступіць у Нью-Ёрку**
Кіраўніку Беларусі дадуць трыбуну ў першы дзень юбілейнай 70-й сесіі Генеральнай асамблеі ААН. Ён будзе выступаць 28 верасня. Лукашэнка неўязны ў ЗША, аднак для мерапрыемстваў ААН робіцца выключэнне.

**Ганчарэнку ўзялі ў ЦСКА**
Беларускі футбольны трэнер Віктар Ганчарэнка ўвайшоў у трэнерскі штаб маскоўскага ЦСКА ў якасці старшага трэнера. Галоўным трэнерам клуба з'яўляецца Леанід Слуцкі, які таксама ўзначальвае зборную Расіі.

**ЯМ**

### Рэкамендуем

**Алесь Гуркоў: Пазняку трэба было дамаўляцца з Кебічам**
Гутарка з прадпрымальнікам і дзеячам беларускага адраджэння.
**Чытайце на nn.by.**

### Апытанне на nn.by

**Ці гатовыя Вы браць удзел у пікетах за свабодныя выбары, якія арганізоўвае Статкевіч?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 492 | 38% |
| Не | 555 | 42% |
| Залежыць ад рэакцыі ўладаў | 95 | 7% |
| Падумаю | 167 | 13% |

Прагаласавала 1305 чалавек

### Самае чытанае на nn.by за 9—15 верасня

1. Статкевіч правёў пікет у цэнтры Мінска з патрабаваннем свабодных выбараў
2. Ад Абельскай да Ярмошынай: уладальнікі катэджаў у Драздах, поўны спіс
3. Тролі не супакойваюцца пад рэпартажам пра пікет Статкевіча — што пішуць
4. ЦВК зарэгістравала чатырох кандыдатаў у прэзідэнты
5. Лявон Вольскі даў канцэрт у пераходзе ў цэнтры Мінска ў дзень свайго 50-годдзя, адразу сабраўся натоўп
6. Выступ Таццяны Караткевіч на цырымоніі рэгістрацыі кандыдатаў і рэакцыя на яго цэвэкістаў
7. Журналістка б'е нагамі бежанцаў, у тым ліку маленькую дзяўчынку — відэа
8. Мужчына выкапаў сажалку на хутары і атрымаў штраф 290 мільёнаў з пагрозай сесці на 5 гадоў
9. БТ пакінула ад прамовы Караткевіч рожкі ды ножкі
10. Таццяна Караткевіч: Я — выклік рэжыму

# Перадвыбарная праграма Таццяны Караткевіч «За мірныя перамены»

Ёсць тры факты.

1) У Беларусі выбарчыя камісіі ўзначальваюць асобы, падкантрольныя Аляксандру Лукашэнку. 2) Выбарцаў змушаюць галасаваць датэрмінова, што ўжо само сабой падазрона. 3) Падлік бюлетэняў пасля галасавання вядзецца такім чынам, што назіральнікі не могуць іх пералічваць.

У такіх выбарах немагчыма «перамагчы» таго, хто іх арганізоўвае. Гэта спектакль, а не выбары, кажуць Мікалай Статкевіч, Анатоль Лябедзька і Павел Севярынец.

Яны заклікалі Тацццяну Караткевіч знясцца на адным з этапаў кампаніі, каб сваім удзелам не надаваць спектаклю легітымнасці.

Тацццяна Караткевіч, з нейкіх прычын, здымацца не хоча.

Гэта што датычыць удзелу ці няўдзелу.

Аднак што датычыць праграмы, то праграма Тацццяны Караткевіч — гэта праграма ўсёй апазіцыі.

Што ж прапануе апазіцыя? Прапануем Вашай увазе.

* * *

Прэзідэнт павінен накіраваць сваю працу ў першую чаргу на стварэнне ўмоў для павышэння ўзроўню і якасці жыцця грамадзян Беларусі, што можа быць ажыццёўлена толькі на аснове эфектыўнай эканомікі. Пазітыўныя перамены немагчымыя без правядзення глыбокіх палітычных рэформаў і эканамічных рэформаў.

Праграма заснавана на пытаннях «Народнага рэферэндуму».




### Сацыяльная палітыка: клопат пра людзей і сацыяльная справядлівасць

Галоўным прынцыпам сацыяльнай палітыкі павінен стаць прынцып роўных магчымасцяў, заснаваны на сацыяльнай справядлівасці і сацыяльнай салідарнасці моцных і слабых.

У сацыяльнай сферы неабходна вярнуцца да ўжо прадэклараваных у Канстытуцыі гарантыяў і ажыццявіць шэраг рэформаў.

**Бясплатная дзяржаўная медыцына** — забяспечыць доступ усіх грамадзян да якаснага медыцынскага абслугоўвання пры паралельным развіцці сістэмы страхавой і прыватнай медыцыны.

**Бясплатная дзяржаўная вышэйшая адукацыя** — адмяніць плату за вучобу ў дзяржаўных навучальных установах як супярэчную Канстытуцыі. Вярнуць студэнтам ільготы на праезд транспартам усіх відаў і іншыя льготы.

**Пенсійная рэформа** — не павышаць пенсійны ўзрост да нармалізацыі дэмаграфічнай сітуацыі. Плаціць поўныя пенсіі працуючым пенсіянерам. Распрацаваць сістэму накапляльных пенсій, спрыяць стварэнню прыватных незалежных пенсійных фондаў разам з дзяржаўнымі.

**Адрасная сацыяльная дапамога** — распрацаваць эфектыўную сістэму сацыяльнай дапамогі ў выглядзе адрасных грашовых выплат, асабліва грамадзянам з абмежаванымі магчымасцямі, у тым ліку праезд у грамадскім транспарце і камунальныя плацяжы. Пашырыць удзел грамадскіх арганізацый у сацыяльнай дапамозе насельніцтву праз дзяржаўную сацыяльную замову.

**Рэформа працоўных узаемаадносін** — перагледзець кабальную кантрактную сістэму найму на працу. Адмяніць паборы дзяржавы з грамадзян, якія страцілі працу ў выніку эканамічнага крызісу. Аказаць эфектыўную дапамогу ў набыцці новай спецыяльнасці і ў адкрыцці ўласнай справы. Абарона правоў работнікаў павінна ажыццяўляцца не бутафорскімі, а незалежнымі прафсаюзамі на аснове эфектыўных калектыўных дамоваў.

**Пераадоленне наступстваў Чарнобыльскай катастрофы** — аднавіць «чарнобыльскія праграмы»: у поўным аб'ёме вярнуць ільготы пацярпелым грамадзянам і забяспечыць безумоўнае выкананне мер па пераадоленні наступстваў катастрофы. Стварыць не фармальную, а сапраўды эфектыўную сістэму медыцынскага абследавання ўсіх катэгорый пацярпелага насельніцтва — абследавацца павінны ўсе жыхары на рэгулярнай аснове з ужываннем сучасных методык і абсталявання.

**Дапамога сем'ям** — аказваць актыўную падтрымку сем'ям з дзецьмі, стварыць сістэму падатковых ільгот у інтарэсах сям'і, садзейнічаць усім формам прадпрымальніцкай дзейнасці сем'яў. Распрацаваць праграму будаўніцтва з дзяржаўнай падтрымкай індывідуальных жылых дамоў на ўласным зямельным участку.

**Моладзевая палітыка** — распрацаваць і рэалізаваць праграму моладзевай палітыкі, якая ўключае дзяржаўную падтрымку грамадскай і прыватнай ініцыятывы моладзі. Спрыяць атрыманню адукацыі за мяжой.

**Бізнэс на службе сацыяльнай палітыкі** — распрацаваць сістэму падтрымкі сацыяльна адказнага бізнэсу, стымуляваць інвестыцыі працадаўцаў ў сістэму сацыяльнай абароны работнікаў свайго прадпрыемства.

**Даступнае жыллё** — распрацаваць доўгатэрміновыя горадабудаўнічыя планы кожнага населенага пункта з улікам натуральных дэмаграфічных працэсаў. Аптымізаваць усе этапы будаўнічага працэсу з мэтай прывесці кошт стандартнага метра жылля да даступнага для сярэдняй беларускай сям'і.

### Эканамічнае абнаўленне: развіццё прадпрымальніцтва і прамысловасці, прыцягненне інвестыцый

Толькі эфектыўная эканоміка, якая развіваецца на аснове прынцыпаў і падыходаў, ужо рэалізаваных у паспяховых краінах, можа стаць асновай павышэння ўзроўню і якасці жыцця грамадзян.

**Дзяржаўныя фінансы** — стабільная валюта і абарона ўкладаў, забеспячэнне незалежнасці нацыянальнага банка, стрымліванне інфляцыі, абсалютная захаванасць і таямніца прыватных укладаў, даступнасць банкаўскага крэдыту, спыненне растраты дзяржаўных сродкаў на запытах галіновых лабістаў.

**Прыцягненне інвестыцый** — стабільная падатковая сістэма і празрыстасць: увядзенне 5-гадовага мараторыя на заканадаўчыя змены ў падатковай сістэме, спрошчанае падаткаабкладанне, стварэнне стабільнай заканадаўчай базы, уключаючы Інвестыцыйны кодэкс, які будзе гарантаваць нязменнасць умоў заключэння дамовы з інвестарам. Канфіскацыйныя меры, высокія штрафныя санкцыі ў дачыненні да бізнэсу і сакрэтныя распараджэнні выканаўчых органаў будуць адменены.

**Дзяржаўная дапамога** — мадэрнізацыя стратэгічных прадпрыемстваў і прыярытэт у развіцці новых сектараў эканомікі: стратэгічныя прадпрыемствы будуць мадэрнізаваны з дзяржаўнай падтрымкай і стануць канкурэнтаздольнымі не толькі ў Расіі, але і ва ўсім свеце. Рашэнне аб мадэрнізацыі будзе прымацца не адным чалавекам, а антыкрызіснай камісіяй, якая ствараецца для працы з кожным праблемным прадпрыемствам. Дзяржава будзе садзейнічаць развіццю найбольш канкурэнтаздольных галін: інфармацыйных тэхналогій, экалагічнага турызму, транзіту і лагістыкі, ваенна-прамысловага комплексу, альтэрнатыўнай энергетыкі. Беларусь стане зборачным цэхам Еўропы і Еўразіі і апорнай пляцоўкай эканамічных абменаў паміж Усходам і Захадам.

**Самастойнасць прадпрыемстваў** — кіраўніцтву прадпрыемстваў будзе дадзена права на рызыку і дзелавую ініцыятыву, яны будуць вызваленыя ад выканання заданняў міністэрстваў і ведамстваў па нарошчванні выпуску неканкурэнтаздольнай прадукцыі і нямэтавага ўкладання сродкаў.

**Развіццё энергетычнага сектара** — будзе рэалізаваны агульнаеўрапейскі падыход: укараненне энергазберагальных тэхналогій і выкарыстанне аднаўляльных крыніц энергіі без экстэнсіўнага нарошчвання генерыруючых магутнасцяў. Асабліва небяспечнай і дарагой АЭС.

**Стварэнне працоўных месцаў** — канкурэнтная і інвестыцыйна прывабная эканоміка будзе садзейнічаць стварэнню новых працоўных месцаў і самазанятасці.

**Развіццё навукі** — беларуская навука павінна аднавіць згубленыя пазіцыі шляхам стымулявання ўцягнутасці ў сусветную навуковую каапераццю і аказання мэтавай дзяржаўнай падтрымкі эфектыўных распрацовак.

**Свабодны фінансавы рынак** — выпуск у свабоднае абарачэнне акцый. Гэта створыць новыя магчымасці зберажэнняў, крэдыту і інвестыцый для грамадзян і прадпрыемстваў, будзе садзейнічаць зніжэнню крэдытнай працэнтнай стаўкі.

**Развіццё іпатэкі і ўладкаванне малых гарадоў** — камфортныя месца пражывання і працы, новыя прадпрыемствы і крыніцы заробку, развіццё іпатэкі, узровень даходаў павінен дазваляць сем'ям набыць уласнае жыллё ў сярэднім на працягу пяці гадоў.

**Развіццё бізнэс-асяродку** — стабільная валюта, стабільная падатковая сістэма, абарона ўкладаў, празрыстасць дзяржаўнай эканамічнай палітыкі, развіццё фінансавага рынку, зніжэнне дыктату дзяржавы ў дачыненні да дзейнасці прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці прывядзе да дынамічнага развіцця бізнэсу. Роўныя ўмовы для канкурэнцыі дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў.

**Сельская гаспадарка** — прыняць і рэалізаваць праграму рэфармавання сельскай гаспадаркі на аснове шматукладнасці, свабоднага развіцця ўсіх формаў уласнасці і стварэння рынку зямлі, з ахоўваннем эфектыўных калектыўных гаспадарак і падтрымкі фермераў.

### Сучасная і эфектыўная дзяржава

Закон стане падмуркам беларускай дзяржавы. Беспярэчнае выкананне разумных законаў зробіць Беларусь багатай і стабільнай краінай. Але закон запрацуе толькі тады, калі мы створым баланс уладаў.

**Канстытуцыйная рэформа** — Беларусь павінна быць парламенцка-прэзідэнцкай краінай. Адзін чалавек не можа вечна кіраваць дзяржавай. Прэзідэнт будзе абірацца тэрмінам на 5 гадоў і не больш чым на два тэрміны. У сучаснай краіне ўлада калектыўная, а не аднаасобная. Парламент з прадстаўнікамі кожнага рэгіёна павінен стаць на абарону інтарэсаў усіх беларусаў. Дэпутаты будуць мець рэальную ўладу на прыняцце рашэнняў.

**Рэформа сістэмы мясцовага самакіравання** — Беларусь падпіша Еўрапейскую Хартыю мясцовага самакіравання і будзе прытрымлівацца яе асноўных палажэнняў. У новай Беларусі жыхары самі выберуць мясцовых кіраўнікоў. Прамыя лакальныя выбары зробяць чыноўнікаў залежнымі ад людзей. Мясцовыя лідары, якія прыйдуць па ініцыятыве знізу, будуць разумець і вырашаць праблемы іх грамадзян, а не выконваць жаданні мінскіх чыноўнікаў.

**Незалежнасць судовай улады** — суддзі будуць адказваць толькі перад органамі судовага самакіравання, яны атрымаюць годную зарплату і сапраўдны імунітэт. Вяршэнства права зробіць Беларусь багацейшай, чым любая эканамічная рэформа.

**Эфектыўны дзяржапарат** — мы скароцім колькасць чыноўнікаў, але прыбяром ад іх непатрэбныя функцыі і павысім іх зарплаты. Адкрыты конкурс стане адзінай формай найму на кіруючыя дзяржаўныя пасады. Таленавітыя кіраўнікі будуць мець магчымасць атрымаць адукацыю або павысіць кваліфікацыю ў найлепшых сусветных універсітэтах і прайсці стажыроўкі ў профільных установах за мяжой.

**Электронны ўрад** — бюджэты ўсіх узроўняў, уключаючы зарплаты службоўцаў, рашэнні судоў, інфармацыя аб тэндарах, конкурсах на дзяржаўныя пасады і ўся іншая інфармацыя, якая цікавіць грамадзян, будзе публікавацца ў інтэрнэце. Закрытай можа быць інфармацыя, якая знаходзіцца ў строга абмежаваным заканадаўствам вузкім спісе. У новай Беларусі прадпрымальнікі змогуць рэгістраваць бізнэс праз інтэрнэт, кожны беларус зможа атрымаць пашпарт і іншыя дакументы за 15 хвілін.

**Грамадзянская супольнасць** — мы створым спрыяльныя ўмовы для развіцця некамерцыйных арганізацый, а найбольш эфектыўныя змогуць атрымаць дзяржаўнае фінансаванне праз удзел у тэндарах і конкурсах нароўні з дзяржаўнымі.

### Замежная палітыка: адказнае суседства і нейтралітэт

Беларусь павінна будаваць раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны як са сваімі суседзямі, так і з астатнімі краінамі свету. Знешняя палітыка павінна грунтавацца на нацыянальных інтарэсах і садзейнічаць міру і бяспецы ў нашым рэгіёне.

**Сапраўдны нейтралітэт** — мы будзем рэалізоўваць па-сапраўднаму шматвектарную знешнюю палітыку без непатрэбных перакосаў ва ўсходні ці заходні бок. На тэрыторыі нашай краіны не павінна быць замежных ваенных баз. Беларусь не павінна ўваходзіць ні ў якія ваенныя блокі, якія могуць уцягнуць нас ва ўзброены канфлікт.

**Адказнае суседства** — мы будзем выбудоўваць аднолькава добрыя і ўзаемавыгадныя адносіны як з Захадам, так і з Усходам, няўхільна выконваючы ўзятыя на сябе міжнародныя абавязальніцтвы і патрабуючы гэтага ад нашых партнёраў. Мы заключым з Еўрасаюзам дамову аб супрацоўніцтве і партнёрстве і даб'емся бязвізавага рэжыму як мінімум з усімі суседзямі Беларусі. Мы будзем дамагацца адмены абмежаванняў у гандлі ў рамках Еўразійскай саюза, каб не допусціць больш «мясных» або «малочных» войнаў.

**Рэгіянальная бяспека** — Беларусь будзе садзейнічаць міру і бяспецы ў рэгіёне, у тым ліку праз удзел у мірным урэгуляванні канфлікту ва Украіне. Пры гэтым мы зоймемся мадэрнізацыяй і ўмацаваннем нашых узброеных сілаў, якія павінны стаць гарантам бяспекі нашай краіны ва ўмовах нарастання міжнароднай нестабільнасці.

### Адраджэнне нацыянальнай культуры — аснова беларускай дзяржаўнасці

Наша краіна не стане стабільнай дзяржавай, калі не будзе абапірацца на гістарычныя і культурныя традыцыі беларускага народа. Палітыка ўлады будзе накіравана на адраджэнне беларускай культуры і ўмацаванне нацыянальнай самасвядомасці як асновы беларускай дзяржаўнасці і фактару нацыянальнай бяспекі.

**Сферы культуры** — прыярытэтная падтрымка. Будуць уведзены падатковыя льготы і створаны ўмовы для свабоднай рэалізацыі ініцыятыў грамадзянскай супольнасці і бізнэсу, накіраваныя на развіццё беларускай культуры і гістарычнай спадчыны, мовы і нацыянальных каштоўнасцяў, духоўных традыцый. З удзелам беларусаў замежжа будзе распрацавана праграма вяртання на радзіму нашых культурных каштоўнасцяў, якія знаходзяцца за мяжой. Настаўнік і работнік культуры ў дзяржаўнай ці прыватнай установе будуць мець заробак, не ніжэйшы за сярэдні па краіне.

**Беларуская мова** — наша багацце. Беларускай мове будзе гарантавана адмысловая дзяржаўная падтрымка і годнае месца ў жыцці грамадства, якое адпавядае статусу дзяржаўнай мовы, у тым ліку ў галіне вышэйшай, сярэдняй і дашкольнай адукацыі. Чыноўнік, дэпутат або кіраўнік дзяржавы будзе абавязаны валодаць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі.

**Свабоды слова і друку** — будуць знятыя існуючыя бар'еры для стварэння і свабоднай дзейнасці СМІ і журналістаў. Газеты і інтэрнэт-сайты не будуць баяцца крытыкаваць уладу і выкрываць выпадкі карупцыі і парушэння правоў грамадзян. Дзяржава створыць умовы для свабоднай канкурэнцыі айчынных СМІ, пры гэтым стымулюючы развіццё нацыянальнага інфармацыйнага рынку. Дзяржаўныя датацыі будуць абмежаваныя сферай вучэбнай, краязнаўчай, навуковай і дзіцячаюнацкай літаратуры.

**Беларусь** — наш супольны дом. Усе канфесіі і нацыянальна-культурныя меншасці будуць карыстацца роўнымі правамі. Палітыка дзяржавы павінна быць такая, каб кожны жыхар краіны мог ганарыцца тым, што жыве ў вольнай беларускай дзяржаве, якая паважае годнасць кожнага грамадзяніна.

# Узорны доктар з групы

Гісторыя жыцця трансплантолага **Алега Румо**.

Што такое беларуская медыцына? Гэта дзіўны сімбіёз транспланталогіі сусветнага ўзроўню і ранішніх чэргаў па талоны да доктара. Смяротнасць сярод немаўлятаў апусцілася да еўрапейскага ўзроўню, але профільных спецыялістаў у паліклініках не хапае.

Медыкі бяруць паўтары стаўкі, каб хоць неяк забяспечыць свой дабрабыт. Сярэдні заробак у медыцыне скаціўся да $280 «чыстымі» — гэта афіцыйная статыстыка. Адказ за такія лічбы мусіць трымаць нязменны міністр, педыятр Васіль Жарко, які займае пасаду ўжо дзясяты год.

А вось дасягненні беларускай медыцыны звязваюць з яркімі асобамі — напрыклад, асобай суседа Жарко па Драздах, хірурга Алега Румо. Апошнія гады ён працуе кіраўніком Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра трансплантацыі органаў і тканак. Медсёстры ў гэтай установе зарабляюць па 15 мільёнаў рублёў.

«Наша Ніва» расказвае гісторыю жыцця доктара, а цяпер яшчэ і паспяховага менеджара, якому прадказваюць міністэрскую кар'еру.

**Алег Румо**

Нарадзіўся ў 1970 у Слуцку. Скончыў Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт (1993) і Акадэмію кіравання (2010). Заслужаны доктар Беларусі. Доктар медыцынскіх навук.

Працаваў у 9-й клінічнай бальніцы Мінска, Медуніверсітэце.

Кіраўнік Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра «Трансплантацыі органаў і тканак», намеснік галоўнага доктара 9-й клінічнай бальніцы Мінска.

Жанаты, мае дачку.



У распараджэнні Алега Румо найноўшыя тэхналогіі.

### «Санкцыі — лухта зялёная»

Перад выбарамі Аляксандр Лукашэнка традыцыйна абвяшчае спіс сваіх 30 давераных асобаў. Гэта тыя людзі, якія могуць дапамагаць свайму кандыдату і займацца агітацыяй за яго.

У параўнанні з 2010 годам спіс абнавіўся амаль цалкам. Засталіся адзінкі, і сярод іх Алег Румо.

Доктар неаднаразова публічна выказваўся ў падтрымку палітыкі Лукашэнкі.

«Зразумела, што санкцыі — поўнае глупства, гэта лухта зялёная... За што вы хочаце кагосьці ад чагосьці адхіліць? Што гэта за людзі, якія вам так перашкаджаюць? Яны што, кагосьці забілі ці з кагосьці здзекаваліся?» —абураўся Румо ў эфіры «Беларусь-1».

Пра здзекі і катаванні ў ізалятары КДБ расказвалі кандыдаты ў прэзідэнты, арыштаваныя ў 2010 годзе. А збітага Уладзіміра Някляева наўпрост вывезлі з бальніцы хуткай дапамогі пры маўклівай згодзе галоўнага доктара Віктара Сірэнкі.

Зрэшты, у такім лаяльным стаўленні да ўлады няма нічога дзіўнага, калі азнаёміцца з гісторыяй сям'і Румо, якую запісаў слуцкі краязнаўца Уладзімір Хвораў.


Вясельны здымак Алега і Наталлі Румо.

### Ідэйныя камуністы

Румо — гэта цэлая слуцкая доктарская дынастыя. Пачынальніцай стала бабуля трансплантолага, Ганна Балвановіч, якая вывучылася на фельчарку. Яе бацька быў адным з арганізатараў калгаса ў вёсцы, а пасля на доўгі час стаў старшынёй. Балвановічы былі шляхтай, але віталі прыход савецкай улады.

Ганна пазнаёмілася з Васілём Румо, дырэктарам Слуцкага кансервавага завода. Сам ён паходзіў з небагатай шматдзетнай сям'і з Сенненскага раёна. Каб выбіцца ў людзі, Васіль пайшоў вучыцца і працаваць па партыйнай лініі.

Яго прозвішча мае фіна-ўгорскія карані. З эстонскай мовы «рум/руму» можна перакласці як «ступіца» альбо як «ром».

Маладыя пабраліся шлюбам у 1939 годзе. Неўзабаве да складу рэспублікі далучылася Заходняя Беларусь. Сям'ю Румо накіравалі ў суседні Клецк. Ганна ўзначаліла бальніцу, а Васіль стаў загадчыкам аддзела прапаганды мясцовага райкама партыі.


Алег Румо-старэйшы быў дэпутатам Вярхоўнага Савета ад камуністаў.

У першыя месяцы вайны ў сям'і нарадзіўся першынец, яго назвалі Алегам. Бацька на той момант ужо сышоў на фронт. Пасля вяртання ў Слуцк, ужо ў пасляваенныя гады, нарадзіўся другі сын, Уладзімір.

Васіль Румо ўпэўнена ішоў па партыйнай лініі. Ён нейкі час быў першым сакратаром райкамаў, але пасля асеў у Слуцку, бліжэй да сям'і. Васіль папрацаваў кіраўніком калгаса пад Слуцкам, дырэктарам гарадской гасцініцы, а пасля аказаўся ў сферы ЖКГ.

### Бацька-дэпутат

Старэйшы сын, Алег (гэта бацька трансплантолага), скончыў школу з залатым медалём і паступіў у сталічны медінстытут.

Падчас адной з паездак дадому ён пазнаёміўся з будучай жонкай. Валянціна таксама вучылася на медыка, толькі на курс пазней. Яна паходзіла з суседняй Капыльшчыны.

Папрацаваўшы паўгода ў вясковай амбулаторыі ў Старадарожскім раёне, Алег-старэйшы паступіў на курсы анколагаў. Пасля заканчэння вучобы яго ўзялі працаваць па атрыманай спецыяльнасці ў Слуцкую раённую цэнтральную бальніцу. Туды ж педыятрам уладкавалася і Валянціна, адвучыўшыся ў інстытуце з залатым медалём.

Абодва засталіся ў слуцкай медыцыне на многія дзесяцігоддзі. З цягам часу Алег-старэйшы стаў намеснікам галоўнага доктара, да развалу СССР быў і партыйным арганізатарам бальніцы.

Новыя геапалітычныя рэаліі ніяк не адбіліся на ягоных ідэалагічных поглядах. У 1995 годзе Партыя камуністаў Беларусі высунула яго кандыдатуру на парламенцкіх выбарах. Румо перамог у другім туры і стаў дэпутатам XIII склікання.

Праз год ён адмовіўся падпісваць імпічмент Аляксандру Лукашэнку і перайшоў у створаную палату прадстаўнікоў, дзе стаў намеснікам старшыні камісіі па ахове здароўя, фізкультуры, справах сям'і і моладзі.

У 2000 годзе па ўладным спісе ў парламент ад Слуцка ішоў 24-гадовы ідэолаг Усевалад Янчэўскі. Алег Румо-старэйшы вярнуўся да ранейшай працы — намеснікам галоўнага доктара слуцкай бальніцы.

### Малады навуковец

Дзеці Алега і Валянціны Румо пайшлі па шляху бацькоў, звязаўшы жыццё з медыцынай. Дачка Ала ўзначаліла ў Слуцку станцыю пералівання крыві. Яе муж, уролаг Алег Леснікаў, таксама доктар. Пасля сыходу Алега Румо-старэйшага на пенсію, менавіта зяць заняў ягонае месца намесніка галоўнага доктара ў слуцкай бальніцы.

## Бацька Румо падтрымаў Лукашэнку ў 1996 годзе і перайшоў у палату прадстаўнікоў

Аднак самым знакамітым стала другое дзіця ў сям'і Румо — Алег-малодшы.

«Я, як кожнае «доктарскае» дзіця, з дзяцінства праводзіў шмат часу, нярэдка вечары і ночы, на іх дзяжурствах. Дома пакінуць мяне не было з кім», — узгадваў трансплантолаг.

Ён на выдатна скончыў медуніверсітэт, а пасля ардынатуру. Свaёй спецыяльнасцю абраў хірургію, узяўшы прыклад з бацькі. Малады доктар уладкаваўся ў 9-ю клінічную бальніцу Мінска. Румо кажа, што меў амбіцыі, але ведаў бракавала.

«Я пачынаў медыцынскую кар'еру ў складаны час — гэта быў 1993 год. Зарплата ў доктара была нешта каля $20, стыпендыя ў клінічнай ардынатуры — парадку $7. Ахова здароўя знаходзілася ў жудасным стане», — кажа Румо.

У 29 гадоў ён стаў кандыдатам медыцынскіх навук. Тэма даследавання гучала так: «Карэкцыя інтраінтэстынальнага статуса ва ўмовах раздзельнай дэкампрэсіі тонкай кішкі пры кішачнай непраходнасці рознага генезу».

### Шлях да трансплантalогіі

Пераломным момантам у светаўспрыманні Румо стала паездка ў Германію. Ён выйграў стыпендыю ў дабрачынным фондзе і трапіў у клініку прафесара Петэра Нойхаўса.

«Шчыра кажучы, ехаў туды з такім настроем: маўляў, трансплантацыю печані я рабіць не ўмею, ну, а ў астатнім табе мяне вучыць няма чаму, — прызнаваўся Румо. — Але ўжо першы тыдзень у прафесара Нойхаўса выбіў у мяне глебу з-пад ног: я зразумеў, што недастаткова кампетэнтны ў прафесіі, а ўзровень хірургаў, якія працуюць у гэтай клініцы, на парадак вышэйшы за мой. Гэта стала для мяне адкрыццём. І я паспрабаваў дакапацца, чаму ў іх так, а ў нас паіншаму. Адказ аказаўся вельмі простым: яны займаюцца трансплантацыяй, а мы — не».

Першую аперацыю па перасадцы печані ў Беларусі Румо правёў у 2008 годзе. Яна працягвалася 12 гадзін! Асістэнтамі мусілі быць расійскія дактары, аднак яны не паспелі прыехаць, таму давялося працаваць без іх кантролю. Зрэшты, хапіла і свайго досведу — да таго Румо асіставаў на паўсотні падобных аперацый у Берліне і Гановеры.

Поспехі трансплантологіі дазволілі пралабіраваць стварэнне РНПЦ «Трансплантацыі органаў і тканак» на базе 9-й клінічнай бальніцы. Будоўлю паскорыла сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам, які паклікаў каманду хірургаў на прыём.

«Для кожнага чалавека сустрэча з кіраўніком дзяржавы — знакавая падзея. Я тады быў асіплы, баяўся, што сказаць нічога не змагу. Але, на маё здзіўленне, як толькі ў залу ўвайшоў прэзідэнт, хваляванне знікла. Выклікае прыхільнасць. З харызмай», — Румо ўдзячны


Румо — сусед міністра аховы здароўя Васіля Жарко ў Драздах.

Сяргей Гудзілін

# падтрымкі Лукашэнкі


Наталля Румо працуе ў міжнароднай карпарацыі «Цэптар».


Дачка Алена вучыцца ў Маскве.

Лукашэнку за тое, што дапамог рэалізаваць мару.

У 2010 цэнтр трансплантalогіі запрацаваў, а Румо быў уключаны ў спіс давераных асобаў кіраўніка краіны.

Яшчэ праз год хірург атрымаў званне «Заслужанага доктара Беларусі», а неўзабаве абараніў доктарскую дысертацыю — «Комплекснае лячэнне энтэральнай недастатковасці пры хірургічных захворваннях органаў брушной поласці».

Летась Румо мог стаць яшчэ і членам-карэспандэнтам Акадэміі навук, аднак навукоўцы прагаласавалі супраць маладога калегі.

### Жонка ў «Цэптары»

«Усе бытавыя пытанні ў нашай сям'і вырашае жонка. Менавіта яе каласальная заслуга ў тым, кім стаў я. Жонка пастаянна мяне падштурхоўвае да прафесійнага росту. Я, можа, паляжаў бы на канапе, але яна мяне з яе падымае і пераконвае, што жыццё ідзе далей і трэба рухацца разам з ім», — прызнаецца доктар.

Наталля Румо нарадзілася ў Мінску, але мае слуцкае паходжанне. Як і муж, яна скончыла медінстытут. Цяпер працуе ў каляmedыцынскай сферы — брэнд-дырэктарам беларускага прадстаўніцтва швейцарскай карпарацыі «Цэптар». Кампанія, заснаваная сербскім эмігрантам, прадае тавары для прыгажосці і здароўя — напрыклад, касметыку, посуд, сістэмы ачысткі вады... Апроч таго, у Беларусі «Цэптар» заснаваў аднайменны дробны банк.

### Іпатэка на $320 тысяч

Яшчэ ў сярэдзіне 2000-х Румо пабудавалі трохпакаёўку ў панэльным доме на вуліцы Гурскага. Пасля будаўніцтва станцыі метро «Міхалова» нерухомасць падаражэла, цяпер кватэра плошчай каля 80 м² ацэньваецца ў $140 тысяч.

Праз некалькі гадоў сям'я медыкаў атрымала магчымасць набыць апартаменты ў Драздах. Румо сталі гаспадарамі кватэры плошчай больш за 120 м² у клубным доме ў самым дарагім месцы Беларусі — вуліцы Піянерскай. Кватэры ў гэтым будынку не траплялі ў адкрыты продаж. На суседнім з Румо паверсе жыллё займела сям'я міністра аховы здароўя Васіль Жарко.

Грошай гатоўкай на той момант не было. Румо афармілі іпатэку. Крэдытная дамова была заключаная больш чым на 700 мільёнаў рублёў. На момант афармлення гэта было каля $320 тысяч, аднак за кошт шматлікіх дэвальвацый сума ўжо ўсохла ў 8 разоў.

Інвестыцыя аказалася выгаднай. Жыллё ў доме Жарко і Румо прадаецца па $4100—4200 за квадратны метр. Такім чынам, рынкавая цана кватэры медыкаў перавышае паўмільёна даляраў.

А ў 2012 годзе Румо атрымаў надзел у Вяснінцы («Драздах-2»). Вакол яго пасялілі сілавікоў: старшыню КДБ Валерыя Вакульчыка, міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча і старшыню Следчага камітэта Валянціна Шаева. Участкі знаходзяцца ў водаахоўнай зоне.

Кадастравая цана тых 14 сотак, што дасталіся Румо, складае каля $270 тысяч. Але рынкавы кошт пабудаванага катэджа мае перавысіць $1 мільён. Цяпер сям'я скончвае будоўлю.


Румо атрымаў яшчэ і надзел у «Драздах-2».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Дачка вучыцца на дыпламата

Дачка Алена скончыла 16-ю гімназію ў Вяснянцы. Тут вучацца дзеці многіх беларускіх чыноўнікаў, якія жывуць у Драздах, а таксама ўнукі і ўнучкі Аляксандра Лукашэнкі.

«Я не вельмі люблю родны горад, для мяне ён недастаткова актыўны і жывы... Адным з нямногіх плюсаў пражывання ў Мінску я заўсёды лічыла блізкасць да Еўропы», — прызнаецца Алена.

Дзяўчына парушыла традыцыю сямейнай дынастыі медыкаў і паступіла ў расійскі МГІМО.

Бацькі гатовыя ўкладаць грошы ў развіццё дачкі. Алена шмат падарожнічае. За апошні год яна выкладала ў сваім інстаграме здымкі з Аўстрыі, Арменіі, Іспаніі, Японіі... Прычым гэта не пляжны адпачынак ці паходы па начных клубах, а экскурсійныя паездкі. Напрыклад, у Лондан дзяўчына паехала, каб падцягнуць мову.

Цікава, што яе тату Алегу Румо англійская даецца цяжэй: «Вось на англійскую выдаткоўваю вар'яцкую колькасць часу і грошай, нягледзячы на тое, што ў мяне вельмі добрая памяць. Чаму? Ды таму што замежныя мовы — гэта чыстае завучванне, там няма лагічных сувязяў, а ў мяне зусім іншы тып мыслення».

«Для мяне найлепшы набытак — гэта кніга. Зусім не абавязкова тут жа чытаць яе, дастаткова проста трымаць у руках, гартаць, удыхаць водар старонкі», — пераканаая яго дачка.

Перад паездкай у Токіа Алена абклалася падручнікамі японскай мовы. Гэтая краіна — цэнтр прыцягнення аматараў касплея. Так называюць пераапрананне ў касцюмы вядомых персанажаў, найчасцей герояў японскіх мультфільмаў. У партфоліа дзяўчыны мноства фотасесій у адпаведным адзенні.

### Трансплантолаг не мае права на рызыку

Цяпер у РНПЦ прафесара Румо перасаджваюць ныркі, печань і падстраўнікавую залозу.

## У Алега Румо медыцынская сям'я — бабуля, бацька, маці, жонка, сястра і яе муж

Па колькасці трансплантацый на колькасць насельніцтва Беларусь абганяе ўсіх суседзяў, напрыклад, Расію — больш чым у 4 разы.

Сам Румо цяпер аперуе некалькі разоў на тыдзень, абіраючы самыя складаныя выпадкі. Астатні час займае менеджарская праца. Доктар скончыў Акадэмію кіравання, таму можа быць прызначаны на кіруючую пасаду любога ўзроўню.

«Я баюся рызыкаваць — гэта праўда. У трансплантацыі ўвогуле не маю права рызыкаваць. А да небяспечных сітуацый я старанна рыхтуюся, кожнае дзеянне даводжу да аўтаматызму», — прызнаецца ён.

Насуперак камуністычнаму мінуламу сям'і, Румо мае патрэбу ў рэлігіі. «У маім кабінеце ёсць невялікі іканастас. Я звяртаюся па дапамогу да святых, калі мне цяжка, — расказвае доктар. — Прычым не толькі ў прафесійных пытаннях, але і ў многіх іншых жыццёвых сітуацыях. Што тычыцца поглядаў царквы на трансплантологію, то наш цэнтр асвячоны, у нас тут шмат абразоў». «Лічу, што без дапамогі Бога здзяйсняць такія справы ўвогуле немагчыма», — кажа Румо пра трансплантологію.

**Ягор Марціновіч**

## За Лукашэнку — Шчоткіна, за Караткевіч — Чалы, за Гайдукевіча — Крыжаноўскі

Кандыдаты ў прэзідэнты назвалі сваіх **давераных асобаў**.

Выбарчая кампанія перайшла ў стадыю агітацыі. Кожны кандыдат у прэзідэнты мае права ўказаць да 30 сваіх давераных асобаў, якія будуць заклікаць галасаваць за яго.

У спісе **Аляксандра Лукашэнкі** абсалютная большасць — чыноўнікі і дэпутаты палаты прадстаўнікоў і савета рэспублікі. У параўнанні з 2010 годам засталіся самыя верныя — спікер Уладзімір Андрэйчанка, кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька, губернатар Міншчыны Сямён Шапіра і кіраўнік «Верцялішак» Васіль Равяка.

Апроч іх, у спіс уключаныя кіраўнікі аблвыканкамаў і старшыня Мінгарвыканкама Андрэй Шорац. З міністраў прадстаўленая толькі Марыяна Шчоткіна.

Здзіўляе з'яўленне Ірыны Акуловіч — кіраўніцы магілёўскага тэлебачання. Няўжо рыхтуецца замена Давыдзьку?

Спіс разбаўлены некалькімі асобамі, якія фармальна не ўваходзяць ва ўладныя структуры.

Напрыклад, агітаваць за кіраўніка дзяржавы можа гімнастка Любоў Чаркашына. Ад адукацыі ў давераныя асобы трапілі рэктар Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Андрэй Кароль і прарэктар Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Таццяна Якубовіч.

**Таццяна Караткевіч** надала статус давераных асобаў рэгіянальным каардынатам. Нечаканае імя толькі адно — эканаміст Сяргей Чалы.

У спісе **Сяргея Гайдукевіча** толькі дзве жанчыны (у астатніх па шэсць-сем). Палітык пераважна запісаў сваіх калегаў па партыі. На слыху імёны коміка Яўгена Крыжаноўскага і Алега Гайдукевіча, сына кандыдата.

Сярод давераных асобаў **Мікалая Улаховіча** вядомых людзей няма.

**ЯМ**


27-гадовая бронзавая прызёрка Алімпіяды Любоў Чаркашына — самая маладая давераная асоба Лукашэнкі

# Караткевіч: «Лукашэнка стаміўся. Яму варта адпачыць»

Працяг са старонкі 1.

Тое самае зрабілі і з няўдалым прэтэндэнтам Віктарам Цярэшчанкам. За прамінулыя пяць гадоў ён моцна змяніўся знешне — нібыта перанёс цяжкую хваробу.

«Кандыдатура Таццяны Мікалаеўны цалкам адпавядае патрабаванням, ніякіх парушэнняў не выяўлена», — кажа пра Караткевіч Лазавік. Першая жанчына-кандыдат у гісторыі прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ёсць. Караткевіч выступала па-руску. «Я ганаруся, што я — адзіная дэмакратычная альтэрнатыва, я прадстаўляю людзей, што хочуць мірных перамен. Улада павінна мяняцца. Мяняцца мірна», — сказала кандыдатка.

Яна адзначыла, што якасць жыцця толькі пагаршаецца, а Аляксандр Лукашэнка не выканаў абяцання — 1000 даляраў заробку. «Калі мы дадзім яшчэ 5 гадоў гэтай уладзе, то толькі пагоршым сітуацыю».

Выступ Караткевіч быў лаканічны і ўпэўнены. «Лукашэнка стаміўся. Яму варта адпачыць», — сказала напрыканцы Караткевіч. Камера «НН» зафіксавала: Ярмошыну на гэтых словах скрывіла. Гэтыя словы з яе прамовы па БТ выразалі, пакінуўшы толькі падзякі сваім актывістам.

Быў зарэгістраваны і лідар ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч.

За рэгістрацыю Улаховіча яшчэ не прагаласавалі, а ён ужо кінуўся атрымліваць пасведчанне. «Пачакайце», — прамовіла Ярмошына. «Я ведаю эканоміку не па падручніках, лічу сябе моцным гаспадарнікам. Я спадзяюся, што прынясу карысць Радзіме. Не такая простая сітуацыя ў нас», — сказаў «атаман».

ЦВК разгледзеў скаргу Партыі БНФ аб нерэгістрацыі Лукашэнкі праз шматлікія парушэнні. Доўга-доўга гаварылі, каб прыйсці да высновы, што прычын адмаўляць у рэгістрацыі Лукашэнку няма. А вы як думалі? Лукашэнка зарэгістраваны. Міхаіл Орда вырашыў падысці да мікрафона: «Людзі ставяцца да выбараў неабыякава. Лукашэнку аказаная беспрэцэдэнтная падтрымка. Подпісы за яго ставілі як за мудрага палітыка. Ён ніколі не сыходзіў ад адказнасці».

На выхадзе з ЦВК кандыдатаў сустрэлі дзве групы падтрымкі — Караткевіч і Гайдукевіча. Побач з бел-чырвона-белымі сцягамі лунаілі і сцягі «ліберал-дэмакратаў». Пратакольныя здымкі і ўсё — выбары-2015 выйшлі на свой фінішны адрэзак.

**Сяргей Гудзілін**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Злева направа: Міхаіл Орда, Таццяна Караткевіч, Сяргей Гайдукевіч.

## «Спарынг-партнёры» жывуць на шырокую нагу

Сталі вядомыя дэкларацыі аб даходах кандыдатаў у прэзідэнты.

Самым багатым кандыдатам аказаўся **Аляксандр Лукашэнка**. Летась ягоны агульны заробак перавысіў 550 мільёнаў рублёў. Гэта ў сярэднім па 46 мільёнаў ($4500 па тагачасным курсе) на месяц.

Лукашэнка хоць і стаў летась пенсіянерам, атрымлівае толькі зарплату. Зрэшты, ягоны даход з часу папярэдніх выбараў усё адно істотна вырас.

Для параўнання, у 2009 годзе зарплата Лукашэнкі складала $2820, а ў 2005 — $2290.

Нерухомасці і каштоўных папер персанальна на яго па-ранейшаму не запісана. Не ўключаны ў спіс і «Майбах» — звышдарагі аўтамабіль, які нібыта быў атрыманы «ў падарунак» ад расійскага алігарха Міхаіла Гуцарыева.

З членаў сям'і ў дэкларацыю Лукашэнкі запісаная жонка Галіна, хоць яна і жыве асобна. Сярэднямесячны даход фармальнай «першай лэдзі» летась склаў 8,2 мільёна рублёў — $801 па тагачасным курсе. Гэта заробак, пенсія, а таксама дробныя дывідэнды ад акцый масларобнага завода.

У параўнанні з папярэднімі дэкларацыямі яна таксама пабагацела — раней Галіна Лукашэнка мела $477 (у 2009) і $311 (у 2005) месячнага даходу.

Ёй па-ранейшаму належаць жылы дом у Шклове і палова дома ў вёсцы Вялікі Межнік.

Як выявілася, праўладныя кандыдаты ў прэзідэнты жывуць на шырокую нагу. **Сяргей Гайдукевіч** і ягоная жонка Ала летась атрымалі больш за 500 мільёнаў рублёў. Амаль $50 тысяч на дваіх! — больш за $4000 на месяц.

Гайдукевіч указаў, што частку грошай атрымаў ад продажу аўто. Але пры гэтым паспеў купіць новы ўседарожнік «Нісан Ікс-Трэйл». А за год да таго новую машыну набыла і жонка.

На самога Гайдукевіча ніякай нерухомасці не зарэгістравана. Затое жонка валодае катэджам у Сёмкаве (там і жыве сям'я) і трыма сталічнымі кватэрамі.

На жонку запісана і жыллё **Мікалая Улаховіча**. Сталічная кватэра на вуліцы Беларускай (рынкавы кошт больш за $350 тысяч) дасталася ёй па шлюбнай дамове. Апроч таго, Раіса Улаховіч мае ў Мінску некалькі гандлёвых памяшканняў, а сам кандыдат — хаткі ў Ляхавіцкім і Чашніцкім раёнах.

Муж з жонкай маюць амаль аднолькавы даход — у кожнага выходзіць па $2000 на месяц. Гэта заробак і пенсія.

**Таццяна Караткевіч** аказалася найбліжэй да народа. Летась яе заробак складаў $490. У мужа менш — каля $330. Ніхто з іх не мае свайго жылля, толькі дзве старыя машыны, 1988 і 1999 гадоў выпуску.

**Ягор Марціновіч**

### Цытата

**Ярмошына: Галоўнае — яўка, а не вынік выбараў**



У сітуацыі палітычнай пасіўнасці насельніцтва галоўная задача ўладнай вертыкалі — забяспечыць высокую яўку, каб легітымізаваць Аляксандра Лукашэнку.

«Наколькі сур'ёзныя асцярогі, што на выбарах будзе нізкая яўка?» — запытаўся вядучы СТБ Ягор Хрусталёў у старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай.

«Гэта мой, напэўна, страшны сон. Мяне хвалюе больш за ўсё нават не вынік выбараў, а ці прыйдзе выбаршчык. Гэта з'яўляецца самым галоўным, — прызналася яна. — Тое, што працаваць над яўкай трэба, гэта абавязкова. Можа быць, там, дзе над яўкай не працуюць, то бок пускаюць на самацёк, выбаршчыкі прагаласуюць нагамі. У рэшце рэшт, у нас дзяржава над яўкай працуе».

# Мільянер Тапузідзіс будзе ўласнаручна лічыць галасы

Грамадзянін Павел Георгіевіч Тапузідзіс зарэгістраваны членам выбарчай камісіі на ўчастку для галасавання №69.

Гэта вынікае з рашэння №667 адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска за 26 жніўня 2015 года.

Тапузідзіс быў вылучаны ў камісію «ад працоўнага калектыву бухгалтэрыі «Тытунь-Інвест». Разам з іншымі 12 членамі камісіі ён павінен падчас галасавання (у тым ліку датэрміновага) знаходзіцца ў школе, уласнаручна выдаваць бюлетэні жыхарам Сухарава, а пасля лічыць галасы.



Адметнасць сітуацыі ў тым, што Павел Тапузідзіс — адзін з самых багатых людзей краіны. У рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсменаў Беларусі, складзеным «Ежедневніком», ён займае 4-е месца.

У рэйтынгу «Топ-100 самых уплывовых беларусаў» ад «Нашай Нівы» эксперты паставілі Тапузідзіса на 47-е месца.

Мільярдэру належыць кампанія «Тытунь-Інвест» (адзіны прыватны вытворца цыгарэт у Беларусі), а таксама сетка гіпермаркетаў «Карона» і элітны клуб «Робінсан» на беразе Мінскага мора.

Тапузідзіс бярэ на сябе такую «палітычную» нагрузку не першы раз. Ён быў у выбарчых камісіях і падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 года і на парламенцкіх у 2012 годзе.

**ЯМ**

## Як фарміруюцца ўчастковыя камісіі?

Павел Тапузідзіс будзе лічыць галасы на ўчастку ў школе №199 на вуліцы Пімена Панчанкі.

Прабягаюся вачыма па складзе камісіі, і зрок выхоплівае незвыклае для Беларусі прозвішча «Папандопула». Стоп. Такое самае прозвішча я бачыў, гартаючы склад выбарчых камісіі на папярэдніх выбарах.

Так і ёсць. І тады, і цяпер у камісіі Таццяна Папандопула ад дабрачыннага Беларускага фонду міру.

Больш за тое, усе (!) 13 чалавек, якія лічылі галасы на парламенцкіх выбарах 2012 года і мясцовых выбарах 2014 года, цяпер будуць лічыць галасы на прэзідэнцкіх. Ніводнага новага імені! Надзвычай арганізаваная група.

Зрэшты, у параўнанні з парламенцкімі выбарамі якія-ніякія змены ў спісе ёсць. Некаторыя члены камісіі цяпер запісаныя ад іншых арганізацый.

Андрэй Барбарчык тады вылучаўся ў якасці прадстаўніка БРСМ. Цяпер ён будзе лічыць галасы ад Беларускай аграрнай партыі.

Вольгу Раманаву ў 2012 вылучала ў камісію бухгалтэрыя «Кароны» (гіпермаркета, які належыць Тапузідзісу). Пасля яна стала запісвацца ад Беларускай асацыяцыі шматдзетных бацькоў.

Яшчэ адзін стабільны «лічыльнік» — Аляксандр Скубакоў. Раней яму даводзілася збіраць подпісы грамадзян, каб трапіць у камісію. Цяпер ён вылучэнец ад раённага аддзялення Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў.

Астатнія сябры камісіі размеркаваныя па грамадскіх арганізацыях і партыях, якія адкрыта падтрымліваюць уладу. Прадстаўленыя тры пралукашэнкаўскія партыі: Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці, Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя і Камуністычныя партыя Беларусі.

І яшчэ пяць грамадскіх арганізацый: «Белая Русь», Беларускі саюз жанчын, Беларускі фонд міру, Беларускае таварыства «Чырвоны Крыж» і Беларускі саюз афіцэраў.

Згадаем паіменна тых, хто будзе лічыць галасы жыхароў Сухарава. Гэта Аляксандр Казанцаў, Вольга Кісялёва, Вікторыя Лапшова, Таццяна Папандопула, Пятро Саўчанка, Сяргей Таранюк, Фёдар Чарняк, Валянціна Шарамет, Іван Шор.

**ЯМ**

# Плынь уцекачоў у Еўропу дасягнула 10 тысяч за дзень

Германія, Аўстрыя, Чэхія часова аднаўляюць **памежны кантроль.**

Еўрапейскія краіны адна за адной аднаўляюць памежны кантроль на фоне таго, што плынь мігрантаў з краін Блізкага Усходу і Афрыкі не змяншаецца.

Больш за 13 тысяч мігрантаў прыбыло толькі ў Мюнхен у суботу, і гарадскія ўлады прызнаюць, што ледзь даюць рады напліву бежанцаў.

Між тым усё новыя групы ўцекачоў праточваюцца праз межы Грэцыі. Дзясяткі тысяч чалавек перакрочваюць мяжу Грэцыі і Македоніі. Потым іх шлях ляжыць праз Сербію ў Венгрыю. А далей — паварот на захад, у Аўстрыю, і яшчэ далей у Германію.

Віцэ-канцлер Германіі Зігмар Габрыэль заявіў, што краіна цяпер «знаходзіцца на мяжы сваіх магчымасцяў». Гаворка ідзе не пра колькасць мігрантаў, а пра хуткасць, з якой яны прыбываюць. Чакаецца, што да канца года немцы


**Бежанцы штурмуюць цягнікі, і ўлады Германіі прыпынілі чыгуначнае злучэнне з Аўстрыяй.**

прымуць 800 тысяч бежанцаў.

Чэхія і Славаччына паранейшаму адмаўляюцца прыняць нейкую квоту ўцекачоў. У гэтых краінах грамадская думка лічыць, што ўцекачы не столькі ратуюцца ад вайны і Ісламскай дзяржавы, колькі шукаюць эканамічнага камфорту. Непрыхільна да бежанцаў настроеная і Венгрыя, якая спешна пабудавала сцяну на мяжы з Сербіяй.

Плынь уцекачоў не спыняецца, і еўрапейскі гуманізм пачынае ўваходзіць у супярэчнасць з тэхнічнымі магчымасцямі Еўропы. Бежанцаў трэба карміць, вучыць мовам і мясцовым законам. Аднак няма інфраструктуры, каб размясціць і вучыць столькі людзей адначасова.

Адкрытасць межаў Еўропы і ідэі гуманізму і глабалізму стварылі сітуацыю, прэцэдэнту якой на кантыненце яшчэ не бывала.

**Сяргей Гезгала**

**Журналістка біла бежанцаў нагамі**

Відэааператарка ультраправага венгерскага тэлеканала N1TV штурхала бежанцаў, якія прарвалі паліцэйскае ачапленне каля лагера ў горадзе Роска. Ласла Петра ўдарыла маленькую дзяўчынку, якая бегла міма, затым — мужчыну з дзіцем на руках, у выніку чаго ён упаў. Гэтыя кадры выклікалі скандал у сацсетках. Пасля таго, як кадры, знятыя яе калегамі, трапілі ў інтэрнэт, яна была звольненая.

Героямі скандальнага відэа сталі мужчына па імені Асаму аль-Гадаб і яго сямігадовы сын Заід. Ён у свой час трэніраваў футбалістаў з каманды «Аль-Фотува» і дагэтуль з'яўляецца членам праўлення Сірыйскай футбольнай асацыяцыі. Аль-Гадаб удзельнічаў у акцыях пратэсту супраць дзейнага сірыйскага рэжыму і быў за



гэта арыштаваны. Ён жыў у горадзе Дэйр-Эз-Зор, і калі гэта месца перайшло пад кантроль Ісламскай дзяржавы, разам з сям'ёй накіраваўся ў Турцыю. Пасля заплаціў каля 1000 еўра кантрабандыстам, і тыя перавезлі яго ў Грэцыю.

**ЯМ**

## Расейцы вінавацяць Яцанюка ва ўдзеле... у чачэнскай вайне

Кіраўнік Следчага камітэта Расіі Аляксандр Бастрыкін заявіў, што прэм'ер Украіны Арсеній Яцанюк у 1990-я ваяваў у Чачні.

У Расіі былі арыштаваныя былыя лідары нацыяналістычнай украінскай арганізацыі УНА-УНСА, і яны нібыта далі паказанні супраць Яцанюка, кіраўніка «Правага сектара» Дзмітрыя Яраша і кіраўніка «Свабоды» Алега Цягнібока.

«Па дадзеных следства, Яцанюк браў удзел як мінімум у двух узброеных сутыкненнях, якія адбываліся 31 снежня 1994 на плошчы «Мінутка» ў горадзе Грозны і ў лютым 1995 года ў раёне гарадской бальніцы №9 горада Грозны, а таксама ў катаваннях і расстрэлах палонных», — дадаў ён. Акрамя таго, Бастрыкін запэўнівае, што Яцанюк у снежні 1995 года быў узнагароджаны найвышэйшай узнагародай Джахара Дудаева «Гонар нацыі».

Паводле афіцыйнай біяграфіі Яцанюка, ён нарадзіўся ў 1974 годзе, а ў 1995 годзе яшчэ вучыўся на юрыдычным факультэце Чарнавіцкага ўніверсітэта.

Версію расійскіх сілавікоў узнялі на смех у інтэрнэце — настолькі Яцанюк не адпавядае вобразу чачэнскага баевіка.

«Мы раім расійскаму рэжыму правесці псіхіятрычную экспертызу Бастрыкіна», — падсумавала прэс-сакратарка ўкраінскага прэм'ера.

**ЯМ**

## Беларус з «Тарнада» аказаўся садыстам

Ва Украіне затрыманы беларус Даніла Ляшук з батальёна «Тарнада» з пазыўным Маджахед, якога абвінавачваюць у цяжкіх злачынствах. Галоўны вайсковы пракурор Украіны Анатоль Мацёс назваў яго самым небяспечным і жорсткім з байцоў «Тарнада», што хаваюцца. Нагадаем, батальён быў распушчаны, а супраць некаторых яго байцоў заведзеныя крымінальныя справы.

Ляшук, які раней нейкі час жыў у Расіі і Крыме, пэўны час належаў да праваэкстрэмісцкіх расісцкіх арганізацый. Па натуры ён «хейтар» — чалавек, якому «трэба кагосьці ненавідзець».

Вырас ён у Брэсце, спяваў рэп, удзельнічаў у групоўках моладзі, пакуль не пераехаў у Севастопаль. Там ён пражыў два гады.



Даніла Ляшук прайшоў шлях ад неанацызму да радыкальнага ісламізму, абвясціў Расіі джыхад і адправіўся ваяваць ва ўкраінскі батальён «Тарнада». Там ён быў паранены, трапіў у шпіталь.

«Менавіта Маджахед-Ляшук з надзвычайным цынізмам і дзёрзкасцю, жорсткасцю і бязлітаснасцю ажыццяўляў найбольш жорсткія катаванні мясцовага насельніцтва Луганскай вобласці, арганізоўваў і браў непасрэдны ўдзел у згвалтаванні затрыманых, якіх ён разам з іншымі падазраванымі выкрадаў з карысліва меркаванняў», — заявіў пракурор Мацёс.

Арыштавалі яго ў лазні пад Кіевам, дзе ён адпачываў з сябрамі.

**СГ**

**In memoriam**

## Аляксей Кароль

Дачка **Ірына Віданава**: «Тата адышоў лёгка, у сне».

12 верасня спынілася сэрца Аляксея Караля — гісторыка, галоўнага рэдактара газеты «Новы час». Яму было 70 гадоў.

У апошні час спадар Кароль змагаўся з ракам лёгкіх. Год таму яго аперавалі, але хвароба вярнулася.

Ягоная дачка Ірына Віданава распавяла радыё «Свабода» пра апошнія дні Аляксея Караля: «Калі даведаліся, што хвароба не адступае, то прынялі рашэнне, каб ён паехаў на лячэнне ў Сінгапур — у сям'ю сына і майго брата, дзе той жыве і працуе менеджэрам міжнароднай фінансавай кампаніі. Да таго ж у брата год таму нарадзіўся сын — гэта было адным з аргументаў на карысць паездкі ў Сінгапур.

Стан здароўя пагоршаў у апошнія тры тыдні — абвастрэнне раку на тле каранарнай хваробы сэрца, такое здараецца. Памёр ён дома. Што нас супакойвае, дык гэта тое, што ён адышоў так, як і хацеў адысці: ён не пакутаваў — памёр у сне, і гэта здарылася хутка. Да апошняга ён заставаўся самім сабой і адышоў такім, якім яго тут ведалі. Ён прасіў, каб яго крэміравалі там, а пахавалі тут.



Тата сфармаваў мяне і майго старэйшага брата як асобаў, мы абое — гісторыкі паводле адукацыі, і ад яго ішла бясконцая любоў да Беларусі, вера ў яе будучыню.

Ён пакінуў след у гісторыі: адкрываў імёны рэпрэсаваных, служыў справе беларусізацыі і свабодзе слова, ніколі не здраджваў ідэям дэмакратыі. Спадзяюся, што ён застанецца ў пераліку тых, каму яшчэ скажам дзякуй».

Развітанне адбудзецца 25 верасня (пятніца) з 14.00 да 16.00 у Мінску, у Палацы мастацтваў на Казлова 3. Прах будзе пахаваны на Паўночных могілках.

### Спачуванні праз nn.by

Мае самыя глыбокія спачуванні родным і блізкім і ўсёй Беларусі, якая страціла ўзор асобы-інтэлігента.

**Лявон Баршчэўскі**

Царства нябеснае! Спачуванні родным. Сумна...

**Віктар Малочка**

Беларусь страціла яшчэ аднаго свайго выдатнага сына. Вельмі балюча, калі адыходзяць сябры, аднадумцы, калегі, тыя, хто сапраўды жыў Беларуссю і для Беларусі. Шчырыя спачуванні родным і блізкім. Царства нябеснае Аляксею.

**Валянцін Голубеў**

Мае найшчырыя спачуванні родным і блізкім, а найперш — Ірыне Віданавай. Трымайцеся!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

Светлая памяць. Спачуванні родным. Таленавіты і адважны быў Чалавек.

**Валянцін Лучко**

Самыя шчырыя спачуванні родным і блізкім Аляксея Сцяпанавіча. Нам яго будзе вельмі не хапаць. Шчыры і сумленны, светлы чалавек.

**Алесь Манцэвіч**

Светлая памяць спадару Аляксею. Спачуванні родным. Адыходзяць сапраўды лепшыя...

**Ігар Лялькоў**

Вечная добрая памяць, спадар Аляксей. Вельмі разумны, годны, адукаваны чалавек і патрыёт. Мае спачуванні родным.

**Андрэй Ляховіч**

Мае спачуванні родным! Цудоўны і шчыры быў чалавек!

**Алесь Таўстыка**

Быў знаёмы са спадаром Аляксеем толькі па працы, але з такімі людзьмі дастаткова і кароткага знаёмства, каб зразумець веліч асобы. Такіх людзей на жыццёвым шляху сустракаецца вельмі мала, і таму спадар Кароль назаўсёды застанецца ў маёй памяці. Шчырыя спачуванні сям'і.

**Стась Багданаў**

Мае шчырыя спачуванні!

**Алесь Васьковіч**

## Юрый Афанасьеў



У Маскве на 82-м годзе жыцця памёр заснавальнік Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта Юрый Афанасьеў.

Афанасьеў быў адным са стваральнікаў руху «Дэмакратычная Расія». Шырокую вядомасць ён атрымаў у гады перабудовы, яго называлі адным з «прарабаў перабудовы». Менавіта дзякуючы яму вызначэнне «агрэсіўна-паслухмяная большасць» атрымала шырокае распаўсюджанне.

У 1993 годзе ён склаў з сябе паўнамоцтвы народнага дэпутата і сышоў з палітыкі.

«Адзін з нямногіх расійскіх гісторыкаў і дэмакратаў, пазбаўлены імперскага комплексу. Памятаю, як яго артыкулу «Коммунисте» перадавалі з рукі ў рукі», — успамінае яго беларускі гісторык Анатоль Сідарэвіч.

# Рэаліці-шоу на валожынскім хутары

**У засценку Васіля Грыня адздымалі вясковы «Апошні герой».**


SB.BY

У лістападзе ў эфіры тэлеканала «Беларусь-2» выйдзе новае шоу накшталт «Апошняга героя», праўда, знятае не на Карыбскіх выспах, а ў валожынскім засценку Скрыпнеў. Гэта хутар, куды дзесяцярых «панаехаўшых» (так называецца праграма) адправілі на два тыдні. Па задуме арганізатараў, удзельнікі праекту мусілі пражыць некалькі тыдняў у вёсцы без інтэрнэту і тэлефонаў, абыходзячыся толькі натуральнай гаспадаркай і працуючы на зямлі. Уладальнік хутара, які на свае вочы бачыў усе пакуты ўдзельнікаў, — гэта сталы чытач «Нашай Нівы» Васіль Грынь. Гаспадар расказаў нам пра здымкі.

«Мне задума спадабалася адразу, і назва зачапіла, таму даў згоду на здымкі ў маёй хаце, — прызнаўся Васіль. — Але і арганізатары малайцы — адабралі ну такіх ужо гарадскіх-гарадскіх, такіх адарваных ад вёскі, што яны абсалютна нічога рабіць не ўмелі. Іхняя дзейнасць ніяк не звязаная з вясковым асяродкам — гэта моды, стрыптыз, поп-эстрада ды ўсё такое. Так бы мовіць, карэнныя «гарадскія», якія на зямлі ніколі не працавалі, мо і іхнія бацькі таксама».


SB.BY

Удзельнікі толькі дакрануліся да сапраўднага вясковага жыцця. Што гэта такое, напоўніцу яны не зразумелі і нічога рабіць не навучыліся.

«Ну ўцямілі, што такое саха і карыта. Гэта ж людзям у навіну было, разумееце? Вось яны жылі-жылі, а тут раз — і ты на хутары без інтэрнэту, без каналізацыі, без крамы. Людзі губляліся, хтосьці плакаў. Камусьці было дзіка чысціць хлеў за свіннямі, іншая шкадавала манікюр, выбіраючы буракі. У іншы свет трапілі», — смяецца Васіль, расказваючы пра прыгоды «гарадскіх».

Гаспадара сядзібы здзівіў сам факт, што вясковае жыццё ператвараецца ў шоу для тэлебачання.

«Засекчы пеўня — гэта ж звычайная справа. Як яшчэ суп варыць? Але не — там такая карцінка атрымалася, сапраўдны баявік», — кажа Васіль і адзначае, што нават рэжысёр перадачы пастаянна раіўся з Васілём ды ягонымі суседзямі наконт таго, ці адпавядаюць кадры рэчаіснасці.

«Але я ўсё ж мяркую, што атрымалася добра і карысна. Бо, па-першае, удзельнікі на сваім поце адчулі, што за кожным прадуктам стаіць чалавечая праца. Раней яны ішлі ў супермаркет не задумваючыся, а цяпер, напэўна, калі яны будуць з паліц бульбу браць, то ўзгадаюць, як карачыліся, і ў галаве ці спіне штосьці стрэльне, — перакананы Васіль. — Да таго ж людзі ўбачылі, што Беларусь — яна розная. Ёсць абсалютна іншае жыццё, якое рэальнае, пад бокам, а не недзе там».

Васіль адзначае, што ўсе ўдзельнікі разумелі беларускую мову і часам спрабавалі гаварыць па-беларуску. Здымкі занялі 16 дзён, цягам якіх удзельнікі змагаліся са сваёй «гародскасцю». Праз дзень-два з праграмы выганялі аднаго чалавека, і ў выніку да фіналу дайшлі тры чалавекі — пераможцу сярод іх абяруць тэлеглядачы, якія змогуць паглядзець «Панаехаўшых» пачынаючы з 3 лістапада.

**Арцём Гарбацэвіч**

Меркаванне

# Беларусь уратуе настаўнік

Якуб Колас пачынаў з настаўніцтва, і таксама рабілі многія беларускія інтэлігенты савецкай пары. Адам Мальдзіс настаўнічаў спачатку, Арсень Ліс і светлай памяці Міхась Чарняўскі. Па той бок жалезнай заслоны айцец Аляксандр Надсан вучыў у лонданскай школе для дзяцей-беларусаў.

Чаму ж наш сённяшні ўмоўны Іван Шыла не ідзе працаваць у школу? Фізруком, напрыклад, ці настаўнікам англійскай мовы?

Новае пакаленне думае пра грошы. Нават калі яно думае пра кайф, жанчын і Беларусь, яно лічыць, што ўсё дасягаецца грашыма. Гэта капіталістычнае пакаленне. «Не мы такія — час такі», — кажуць яны.

Найбольшыя грошы сёння плацяць амерыканскія, еўрапейскія кампаніі ці тыя фірмы, якія працуюць на гэтыя рынкі. Пры Брэжневу найлепш можна было зарабляць у рэстаранах, на складах і вахтавіком у Сібіры. Цяпер «жывуць» тыя, хто працуе ў глабалізаваных прафесіях, дзе ўзровень заробкаў «заходні»: сярод іх прафесійныя спартоўцы, праграмісты.

Заходнія краіны ахвотна раздаюць стыпендыі моладзі з усходу Еўропы, каб перацягваць да сябе самыя разумныя галовы. Аднойчы падсеўшы на той спажывецкі стандарт, чалавек не саскочыць.

А настаўнік у Беларусі зарабляе па мінімальным тарыфе. Вось яна, гэта адна з найбольшых памылак сённяшняй палітыкі. Будуць жа хадзіць голыя і дурныя! Сённяшні стан заведама абмяжоўвае канкурэнцыю за школьныя вакансіі, прыводзіць да цякучкі кадраў (адпрацоўваюць размеркаванне і ўцякаюць) і, у выніку, перакладае клопат пра веды дзяцей на плечы бацькоў. Вядома, не могуць усе настаўнікі зарабляць як Біл Гейтс. Але досыць было б, каб яны зараблялі нароўні з будаўнікамі. У часы Коласа і часы Мальдзіса так і было. Гэтага было б дастаткова, каб нашы сучасныя Шылы, такія ж светлыя, такія ж здольныя, як Колас, як Ліс, не шукалі шчасця за морам.

Але варта сказаць і іншае.

«Як жыць — дык жыць для Беларусі. А без яе — зусім не жыць».

О, як ненавідзяць некаторыя такое мысленне цяпер. Але, калі ўдумацца, гэтыя радкі Ларысы Геніюш былі такія ж непапулярныя, «нясвоечасовыя» і ў час іх напісання.

Калі ўдумацца, у выбары Алеся Белакоза, у выбары Лабановіча і цяпер нямала плюсоў.

Усе гэтыя пералётныя работы то ў адной, то ў другой краіне часта маюць іншым бокам маральныя кампрамісы, стрэсы, абвостранае пачуцце адрыву ад каранёў, няпэўнасці і нестабільнасці.

Нарэшце, ёсць рэчы, якія не паддаюцца фінансаваму вымярэнню.

Як сказаў мне калісьці Алесь Кудрыцкі, які сам стаяў перад падобным выбарам, «колькі каштуе магчымасць бачыць бацькоў і бабуляў калі хочаш, а не два разы на год?»

За заробак настаўніка можна жыць. Вядома, прыйдзецца браць паўтары стаўкі, абавязкі загадчыка гаспадаркі, рэпетытарства, летам падпрацоўваць на будоўлях, але жыць будзеш.

Нават сярод аўтараў «Нашай Нівы» ведаю дзесяць чалавек, якія маглі б стаць цудоўнымі педагогамі ў Беларусі, а замест гэтага хапаюцца за любую, часам зусім пустую работу на Захадзе.

Можа быць, мы проста рэдка прапануем ім задумвацца: а вы не спрабавалі жыць тут?

Падумайце, нарэшце, пра тое, што там вашы дзеці не будуць беларусамі. Вы застаняцеся беларусам, а вашы дзеці, праз дзесяткі гадоў, будуць амерыканцамі, брытанцамі, палякамі. Гэта не так то лёгка, калісьці ўзгадаеце гэтыя словы.

Я б хацеў бачыць Івана Шылу настаўнікам у нашай гімназіі.

Канечне, прафесія настаўніка тут толькі прыклад. Я меў на ўвазе і доктара, пекара, цесляра, маркетолага ў банку, але — тут! І настаўніка — найперш.

Беларусь — і любую краіну ў любую эпоху ў сітуацыі, аналагічнай нашай, — ратуе настаўнік.

**Андрэй Дынько**

# Расейцы лічаць Беларусь краінай сэкс-турызму

Скандальны сюжэт выйшаў у праграме «Добров в эфіре» расійскага тэлеканала Рен-ТВ. Аўтар і вядучы праграмы Андрэй Даброў, дарэчы, уключаны Украінай у санкцыйны спіс за пазіцыю па расійска-ўкраінскай вайне.

Передача безапеляцыйна сцвярджае: Беларусь і Украіна цікавыя толькі тым турыстам, якім патрэбныя недарагія інтымныя паслугі. Госці з Усходу нібыта так любяць сэкс-туры ў Беларусі, што здымаюць у Мінску цэлыя гатэлі.

Затым у ролiку паказваюць вядомы мінскі «Blackhall Bar». Аўтары пераконваюць — мужчыны прыходзяць сюды не танчыць, а менавіта «здымаць» дзяўчат. Дапамагае пераканаць гледача мясцовы эксперт — «свецкі аглядальнік інтэрнэт-выдання» Наталля Капіца.

«Вайна разбурыла ў краіне фактычна ўсе гістарычныя славутасці. У беларусаў застаўся адзіны, але вельмі правераны рэсурс, каб заманіць у краіну турыстаў — гэта мясцовыя прыгажуні, — кажа карэспандэнт РЕН-ТВ. — Любая дзяўчына, што прыходзіць у мінскі клуб — мяса і тавар».

Не забыліся аўтары прайсціся і па краінах Балтыі: «Мінск і Кіеў змагаюцца за званне «самай распушчанай сталіцы» з Рыгай».

**Улад Швядовіч**

# У актрысы Наталлі Саламахі-Конанавай дыягнаставана пухліна мозгу, сябры просяць аб дапамозе

Таленавітая актрыса Коласаўскага тэатра, маладая мама і проста выдатны і добры чалавек Наталля Саламаха-Конанава мае патрэбу ў дапамозе. У яе дыягнаставана пухліна мозгу. Хутка патрэбны грошы на аперацыю і рэабілітацыю за межамі Беларусі.



Дабрачынныя рахункі адкрыты ў «Беларусбанку»
Аддзяленне №200
Віцебск, вул. Леніна, 10Б
УНП 300229956; МФО 150801635:
• беларускія рублі — транзітны рахунак №3819382103002
на дабрачынны рахунак №000043 у аддзяленні №200/140
• даляры — транзітны рахунак №3819382100018
на дабрачынны рахунак 000083 у аддзяленні №200/140
• еўра — транзітны рахунак №3819382100018
на дабрачынны рахунак 000024 у аддзяленні №200/140
• расійскія рублі — транзітны рахунак 3819382100018
на дабрачынны рахунак 000032 у аддзяленні №200/140
Прызначэнне плацяжу: для залічэння на рахунак Наталлі Леанідаўны Саламахі-Конанавай на аперацыю і рэабілітацыю.

Перавесці грошы можна ў офісах банка, а таксама ў інфакіёсках з дапамогай паслугі «Адвольны плацеж (плацеж па рэквізітах)», праз інтэрнэт-банкінг і М-банкінг.

# Homo naledi: раней невядомы від чалавека




Ён часткова **як сучасны чалавек**, часткова як вельмі даўнія нашы продкі.

У пячоры за 45 кіламетраў ад Ёханэсбурга (Паўднёвая Афрыка) у 2013 годзе антраполаг Лі Бергер знайшоў паўтары тысячы костак прынамсі 15 істот, падобных да чалавека. Як паказала даследаванне, гэтыя косткі належаць раней невядомаму віду, што атрымаў назву *homo naledi*, распавядае *National Geographic*.

*Homo naledi* мелі рост каля 1,5 метра і вагу каля 45 кілаграм. Косткі тазу ў іх такія, як у аўстралапітэкаў, што жылі 4 мільёны год таму, а ступні — як у нас, *homo sapiens*. Аб'ём мозгу ўдвая меншы за аб'ём у сучаснага чалавека.

Як расказаў прафесар Бергер *Associated Press*, узрост *homo naledi* хутчэй за ўсё складае ад 2,5 да 2,8 млн год, але ўласна знойдзеныя косткі могуць быць і маладзейшымі. Але дакладны ўзрост пакуль невядомы. Калі яны жылі каля трох мільёнаў год, то *homo naledi* выдатна прадэманструе тое, што эвалюцыя першых з роду *homo* ішла даволі разнастайна. А калі жылі значна пазней — што яны для свайго часу былі «жывымі выкапнямі», якія захавалі прымітыўныя рысы продкаў.

Косткі былі знойдзеныя ў пячорным комплексе Дыналедзі, у гонар якога і быў названы від. Што дзіўна, уваход у пячору быў настолькі вузкім, што туды ледзь пралезлі самыя «кампактныя» даследчыкі.

Як у пячоры аказаліся косткі старажытных людзей — загадка. Магчыма нават, што пячора — месца пахавання. Калі гэта нейкім чынам пацвердзіцца, нас чакае сенсацыя: пра існаванне пахавальных абрадаў у такіх прымітыўных родзічаў чалавека раней і падумаць не маглі.

З іншага боку, косткі маглі быць закінутыя ў пячору і значна пазней. Некаторыя навукоўцы абвяргаюць і галоўную выснову групы Бергера: нехта кажа, што ў пячоры не адзін, а два віды, некаторыя — што гэта не новы від, а вельмі незвычайныя *homo erectus* (якія жылі 1,6 млн год таму). Так ці інакш, гэтая знаходка — найвялікшая ў Афрыцы за ўсю гісторыю.

**Аляксандр Арсёнаў**




## Вядучы прагнозу надвор'я вымавіў назву мясцовасці ва Уэльсе з 58 літар

Вядучы надвор'я на брытанскім канале *Channel 4 News* падчас аповеду аб умовах надвор'я 9 верасня вымавіў назву мясцовасці на паўночным захадзе Уэльса, якая складаецца з 58 літар: Llanfairpwllgwyngyllgogerychwyrndrobwllllantysiliogogogoch.

Дыктар звярнуў увагу на гэтую вёску таму, што там было цяплей, чым ва ўсёй краіне.

Гэтая назва была прыдумана ў 1860-я. Яна не цалкам адпавядае правілам пабудовы валійскіх назваў. Так зрабілі, каб прыцягнуць турыстаў. І гэта працуе дагэтуль: у вёсцы ёсць чыгуначная станцыя, і знак з яе назвай — адна з самых фатаграфаваных славутасцяў Уэльса.

**Іван Шыла**

## Элан Маск прапанаваў скінуць на Марс тэрмаядзерную бомбу

Не таму, што ён злы, а таму, што там **няма атмасферы**.

Заснавальнік *PayPal*, *SpaceX* і *Tesla* Элан Маск выказаў сваё бачанне каланізацыі іншых планет у тэлеперадачы *Late Show* са Стывенам Кольберам, перадае *TJournal*.

Маск лічыць, што Марс непрыдатны да засялення. «Гэта планета, якую трэба рамантаваць», — сказаў ён, маючы на ўвазе адсутнасць на Марсе шчыльнай атмасферы. Найхутчэйшы шлях «рамонту» — тэрмаядзерныя бомбы.

Каб зрабіць Марс больш прыдатным для чалавека, трэба выклікаць на ім парніковы эфект. На думку Маска, ёсць два асноўныя спосабы зрабіць гэта: хуткі шлях з тэрмаядзернай бамбардзіроўкай і павольны — выкід парніковых газаў так, як ён адбываецца на Зямлі. Яшчэ адзін варыянт — засяленне мікробамі.



Раней Маск хацеў аб'яднаць высілкі з генетыкам Крэйгам Вентэрам, каб стварыць своеасаблівы 3D-біяпрынтар, які мог бы «збіраць» на Марсе з бактэрый вялікія расліны і нават жывёл. Ці пачалася сур'ёзная праца над праектам, невядома.

У хуткім часе Маск збіраецца напісаць кнігу пра каланізацыю Марса. Да канца бягучага года, як ён распавёў на *reddit*, яго кампанія *SpaceX* мае прэзентаваць касмічны карабель *Mars Colonial Transporter* і марсіянскі скафандр.

У тэлеперадачы Колберт настойваў, што Маск ёсць суперзлодзеем, вынаходнік гэта адмаўляў — менавіта ў доказ таго, што ён «на светлым баку сілы», Маск раскрыў планы каланізацыі Марса. Таксама Маск пераконваў, што металічная змяя, прызначаная для зарадкі электрамабіляў *Tesla*, не ёсць інтэрфейсам падключэння чалавека да Матрыцы, але заклікаў быць уважлівым побач з ёй.

**АА**

## Мужчынам раяць жаніцца з жанчынамі, якія маюць старэйшых сясцёр

Група медыкаў з Новай Зеландыі ў ходзе эксперыменту высветліла, што жанчыны, якія маюць старэйшых сясцёр, адрозніваюцца добрым здароўем і менш схільныя да паўнаты, а значыць, будуць мець здаравейшых дзяцей.



Вынікі даследавання апублікаваныя ў часопісе *Journal of Epidemiology and Community Health*.

У даследаванні ўзяло ўдзел больш за 13 тысяч пар сясцёр са Швецыі, народжаных у перыяд з 1991 па 2009 г. Навукоўцы прыйшлі да высновы, што старэйшыя сёстры да 25 гадоў маюць на 30% больш шанцаў пераганяць сваіх малодшых сясцёр у вагавай катэгорыі.

Такі эфект навукоўцы патлумачылі тым, што першынцу ва ўлонні маці дастаецца менш пажыўных рэчываў, чым наступным дзецям. У выніку дзяўчынка-першынец нараджаецца з меншай вагой, чым яе будучая малодшая сястра, але ў далейшым кампенсуе гэта вялікім ужываннем ежы.

У мужчын залежнасць паміж паслядоўнасцю нараджэння і масай цела падобныя.

**АГ**

Кіно

## Айфон у галоўнай ролі

**Перавозчык: Спадчына**
**Жанр:** баявік, трылер
**Рэжысёр:** Каміль Дэламар
**У ролях:** Эд Скрэйн, Рэй Стывенсан, Лоан Шабаноль, Габрыэла Райт, Тацціяна Пайковіч, Венься Ю, Радзівое Букавіч, Назмі Ленуар
Францыя, Кітай, 96 хв.
**Адзнака:** 4

Фрэнк Марцін — самы высокакваліфікаваны перавозчык, якога толькі можна наняць за грошы. Стаўкі растуць, тэхналогіі падняліся на больш высокі ўзровень, але правілы тыя ж: ніколі не змяняць умовы здзелкі, ніякіх імёнаў і ніколі не адкрываць груз. Калі Фрэнка наймае красуня Ганна і яе тры чароўныя саўдзельніцы, ён хутка высвятляе, што яго водзяць за нос. Ганна і яе каманда выкрадаюць яго бацьку, каб прымусіць Фрэнка дапамагчы ім разабрацца з групай бязлітасных гандляроў людзьмі.

Перазапуск і прыквел да серыі фільмаў пра перавозчыка Фрэнка Марціна, роля якога ў трох арыгінальных стужках належала Джэйсану Стэтхэму (2002, 2005, 2008). Рэжысёрам новай версіі стаў француз Каміль Дэламар пры актыўным удзеле прадзюсара і некалі культавага рэжысёра Люка Бесона. Гэта, аднак, зусім не дапамагло зрабіць стужку хоць трохі захапляльнай.

Выканаўца галоўнай ролі, брытанец Эд Скрэйн, пакінуў паспяховы праект — серыял «Гульня тронаў» — дзеля здымак у «Перавозчыку». Баявы стыль, выкарыстаны ў фільме, уяўляе сабой сумесь з краў-мага (ізраільскі кантактны бой) і філіпінскіх баявых мастацтваў. Аднак таго, што чакае ўбачыць глядач у падобных стужках, тут вобмаль: відовішчных боек і трукаў нашмат меней, чым было ў ранейшых частках. Затое шмат




раздражняльнага прадактплэйсменту ад *Audi* і *iPhone*. Сюжэт хоць выглядае закручаным, але героі паводзяць сябе нелагічна. Намёк на стылёвасць і фірмовую атмасферу стужак Бесона не выцягвае фільм.

**Настасся Уласава**

# Давыдзьку Г.Б., старшыні Белтэлерадыёкампаніі

Адкрыты ліст.

Паважаны спадар Старшыня, з вялікай цікавасцю прачытаў перадрук Вашых слоў з перадачы «Клуб рэдактараў». Менавіта з цікавасцю. Не з абурэннем, хаця гэта, можа, і было б больш адэкватнай рэакцыяй на Вашыя словы.

Не са здзіўленнем, бо жамчужная калекцыя выказванняў на так шанаваным і папулярным сярод простага народу канале, як «Беларусь-1», ужо даўно не ў стане нічым здзівіць.

Але, дальбог, пакінем у супакоі мае абурэнне і здзіўленне і вернемся да галоўнага, а менавіта да Вашых слоў.

У вышэй згаданай перадачы Вы назвалі беларускіх заўзятараў нашай зборнай — цытую — «юнымі нацыстамі». Не будзем засяроджваць увагу на ўзроставым пытанні, хаця, калі б шаноўны спадар Старшыня асабіста наведаўся на стадыён на матч зборных Украіны і Беларусі, убачыў бы на ўласныя вочы не толькі ўзроставы, але і гендарны разрэз беларускага грамадства.

Напрыклад, побач са мной, не «юным» ужо, 40-гадовым чалавекам, стаялі дзве маладыя дзяўчыны. Можа, у хатнім зацішшы яны і заядлыя «нацысткі», але з іх паводзінаў на стадыёне гэта ніяк не вынікала.

Прааналізуем галоўнае слова з фразы, якое ўражвае маштабам абвінавачвання.



Паважаны спадар Давыдзька, патлумачце, калі ласка, на якой падставе і на якіх фактах Вы гуртам публічна назвалі беларускіх заўзятараў у Львове нацыстамі?

Наколькі я разумею, у вас ёсць неаспрэчныя доказы ці то прыналежнасці наведнікаў гасцявога сектара да фармальных ці нефармальных нацысцкіх груповак, ці то ўжыванні падчас матча або перад ім ці пасля яго нацысцкай сімволікі, ці то публічных нацысцкіх выкрыкаў. Было б надзвычай стасоўна прапанаваць гэтыя доказы шырокай публіцы.

Са свайго боку, перабіраю ў памяці ўзрушальныя моманты еднасці беларускіх і ўкраінскіх заўзятараў футбола падчас побыту на матчы ў Львове і не магу зразумець, што ж выклікала ў Вас такую рэакцыю.

Не магу сабе ўявіць, што, напрыклад, Вы маглі б назваць бел-чырвона-белы, некалі дзяржаўны, сцяг — нацысцкім. Сцяг, пад якім прымаў прысягу на вернасць Беларускаму Народу першы прэзідэнт Беларусі спадар Аляксандр Лукашэнка.

Цяжка сабе ўявіць і тое, што Вы маглі б назваць нацысцкім сфармуляваны Янкам Купалам лозунг «Жыве Беларусь». Гэта проста не змяшчалася б у галаве, калі б гасцявы сектар у Львове, фан-сектар зборнай Украіны і ўвесь 33-тысячны львоўскі стадыён хацелі б, каб Беларусь жыла, а Вы мелі б іншае меркаванне на гэты конт.

Не хочацца верыць і ў тое, што сучасны адукаваны чалавек можа не ведаць, што лозунг «Слава Украіне» сягае вытокаў аспірацый украінскай незалежнасці ў новай гісторыі і звязваць яго з нацызмам могуць толькі прапагандысты тэндэнцыйных тэлеперадач.

Яшчэ менш хочацца верыць у тое, што Вы ўсур'ёз можаце лічыць песні беларускага гурту «Ляпіс Трубецкой», «Тры чарапахі» N.R.M., народную «Купалінку» ці тыповыя беларускія фанацкія крычалкі ў падтрымку зборнай нацысцкай творчасцю. Гэта было б ужо ўвогуле па-за межамі — прынамсі майго ўласнага — разумення. Ужываючы футбольную тэрміналогію — па-за гульнёй…

Быў яшчэ банер з простым, але адназначным салідарным зместам «Трымайцеся, браты». Хацелася б адзначыць, паважаны спадар Давыдзька, што беларускія аматары футбола выказалі сваю салідарнасць украінскаму народу ў рэчышчы агульнага стаўлення Беларусі да няпростай сітуацыі ва Украіне, якая выражалася ў тым ліку і афіцыйна кіраўніком беларускай дзяржавы на сустрэчы ў Кіеве пры канцы 2014 года.

Цытую: «Для нас гэта не гульня. Не толькі таму, што тавараразварот, а таму, што мы суседзі, мы побач жывём, мы родныя людзі».

Звярніце ўвагу, спадар Старшыня, мы з украінцамі — родныя людзі. Няўжо Вы лічыце нацыстамі тых, хто згодны з гэтым тэзісам Аляксандра Лукашэнкі?..

Паважаны Генадзь Браніслававіч, нягледзячы на Вашыя спробы адбіць ахвоту ездзіць на матчы нашай каманды і падтрымліваць яе — мы будзем гэта рабіць.

Будзем ездзіць. І будзем спяваць. І будзем біць новыя рэкорды, так як цяпер, у Львове, пабілі вызны рэкорд на гульнях зборнай Беларусі. А Вам, як старшыні Белтэлерадыёкампаніі, можа, не залішне было б падумаць пра тое, што місіяй і задачай публічнага тэлебачання ёсць адлюстраванне розных мыслёвых і светапоглядавых плыняў, а не барацьба з імі і не іх неапраўданая дыскрэдытацыя.

І на заканчэнне. Са свайго боку станоўча патрабую прынесці публічныя прабачэнні беларускім аматарам футбола, якія 5 верасня 2015 года прысутнічалі на адборачным матчы Еўра-2016 паміж зборнымі Украіны і Беларусі ў Львове — за Вашы несправядлівыя і абразлівыя абвінавачванні.

У іншым выпадку Вы не пакінеце мне выбару і поля для манеўру, і я буду вымушаны ўзяць на сябе ролю арганізатара масавых пазоваў у абароне годнасці ў рамках беларускай судовай сістэмы.

У любым выпадку, прынамсі адзін пазоў будзе напэўна.

**З павагай, заўзятар зборнай Беларусі Андрэй Валькоўскі**

**Цытата**

**Давыдзька: Беларускія фанаты — юныя нацысты**

Генадзь Давыдзька, кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі і даверааная асоба Лукашэнкі, раскрытыкаваў паводзіны беларускіх фанатаў падчас матча Украіна — Беларусь.

«Што гэта за братанні ўкраінскіх і беларускіх фанатаў? Вось тут у «Нашай Ніве» і «Народнай Волі» гэтыя ружовыя соплі пра матч у Львове. Што гэта за салідарнасць беларусаў і супраць каго? Што ім зрабіла Расія?

Мяне зараз цікавіць гэтая маленькая частка людзей. Што гэтыя юныя манкурты маюць супраць Расіі, супраць сённяшняй расійскай моладзі, супраць культуры расійскай? Што, на нас пруць іх танкі?

Чаму нашу краіну прадстаўляюць юныя нацысты? Куды глядзіць Беларуская федэрацыя футбола?» — абураўся Давыдзька.

# Ёсць час патаргавацца (аб расійскай вайсковай базе ў Беларусі)

На сайце расійскага ўрада апублікаваны тэкст пагаднення паміж Расіяй і Беларуссю аб расійскай авіяцыйнай базе на тэрыторыі Беларусі.

Паводле арт. 3 пагаднення, расійская авіяцыйная база (РАБ) уваходзіць у склад Адзінай рэгіянальнай сістэмы супрацьпаветранай абароны Расіі і Беларусі (АРССА) і вырашае задачы ў адпаведнасці з палажэннем аб АРССА, уключаючы працідзеянне актам узброенага нападу з боку міжнародных тэрарыстычных фармаванняў. Расійская авіябаза не можа выкарыстоўвацца ў іншых мэтах, акрамя прадугледжаных пагадненнем.

Месца дыслакацыі авіябазы пагадненнем не вызначана.

У сувязі з гэтым пагадненнем пайшлі спрэчкі наконт адпаведнасці яе Канстытуцыі Беларусі: «Рэспубліка Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а дзяржаву — нейтральнай» (арт. 18). Рэч у тым, што Канстытуцыя наўпрост не забараняе змяшчаць у нас замежныя базы і ядзерную зброю (калі яе чытаць літаральна).

На жаль, у пытаннях такога кшталту Канстытуцыйны суд разглядае адпаведнасць законаў аб ратыфікацыі пагадненняў Канстытуцыі і заканадаўству менавіта не па сутнасці (не з пункту гледжання «духу закона»), а больш з працэдурна-фармальнага боку. Напрыклад, 17 кастрычніка 2012 года Канстытуцыйны суд прыняў рашэнне наконт канстытуцыйнасці пратакола Арганізацыі дамовы аб калектыўнай бяспецы (АДКБ).




Паводле пратакола прадугледжваецца, што дзяржавы-ўдзельніцы АДКБ прымаюць рашэнне аб размяшчэнні на сваіх тэрыторыях груповак войскаў, аб'ектаў ваеннай інфраструктуры дзяржаў, якія не з'яўляюцца членамі АДКБ, пасля правядзення неадкладных кансультацый (узгаднення) з іншымі дзяржавамі-ўдзельніцамі АДКБ і пры адсутнасці іх афіцыйных пярэчанняў. (Гэта азначае, што без дазволу дэ-факта Расіі мы на сваёй тэрыторыі нічыёй іншай базы (акрамя баз дзяржаў АДКБ) размясціць не зможам). Але ж надалей Канстытуцыйны суд разглядае не адпаведнасць пратакола Канстытуцыі, а толькі фармальны бок — неабходнасці ратыфікацыі пратакола ў форме закона.

Безумоўна, што авіябаза ў выніку стане мішэнню для блока НАТА. Але ж гэта пагроза ў выпадку маштабнай вайны.

Ёсць цікавыя моманты ў пагадненні наконт нападу на базу ў межах Беларусі.

Пагадненне надае права камандзіру базы пры пагрозе здзяйснення тэрарыстычнага акта па ўзгадненні з упаўнаважаным органам беларускага боку прыняць рашэнне аб прымяненні вайсковых фармаванняў авіябазы для ўзмацнення аховы ваенных аб'ектаў Расіі. Пад аб'ектамі ў пагадненні маюцца на ўвазе сама база ў месцах дыслакацыі і вайсковыя фармаванні базы, размешчаныя па-за месцамі дыслакацыі, а не існуючыя на тэрыторыі Беларусі аб'екты Расіі РЛС «Волга» і 43-я радыёстанцыя ў Вілейцы.

Далей, пры ўзнікненні пагрозы жыцця і бяспекі, асабоваму складу авіябазы і членам іх сямей па ўзгадненні з беларускім бокам можа выдавацца зброя з правам яе прымянення па-за месцамі авіябазы на тэрыторыі Беларусі (арт. 11 пагаднення). Навошта нам расійскія вайскоўцы са зброяй у беларускіх гарадах і да чаго гэта можа прывесці — пытанне рытарычнае…

Для абароны расійскіх войскаў дастаткова было б крыху ўзмацніць існуючыя ў ваярговых пунктах дыслакацыі авіябазы (Баранавічах і Бабруйску) падраздзяленні Унутраных войскаў Беларусі, а не даваць зброю расіянам.

Беларусь толькі ў межах дазволенага будзе ведаць, што насамрэч будзе адбывацца на авіябазе, таму што нерухомая маёмасць авіябазы недатыкальная, прадстаўнікі беларускай улады не маюць права ўваходзіць у месцы дыслакацыі авіябазы і на ваенныя аб'екты Расіі без згоды камандзіра авіябазы (арт.10).

Доступ прадстаўнікоў Беларусі на тэрыторыю авіябазы ажыццяўляецца са згоды яе камандзіра або асобы па заяўках упаўнаважанага беларускага органа (арт.15). Больш за тое, транспарт і паветраныя судны ўпаўнаважанага расійскага органа, якія выкарыстоўваюцца для забеспячэння жыццядзейнасці і функцыянавання авіябазы, карыстаюцца імунітэтам ад вобшуку, рэквізіцыі, арышту і іншых прымусовых мер.

Некаторыя палітычныя аглядальнікі выказвалі думку, што з падпісаннем гэтага пагаднення Лукашэнку будзе цяжка весці перамовы з Захадам, напрыклад, аб крэдытах. Але ці так гэта насамрэч? Справа ў тым, што паводле арт. 4 пагаднення склад (тып і колькасць паветраных суднаў, узбраення і вайсковай тэхнікі, колькасць асабовага складу) расійскай ваеннай базы вызначаецца расейцамі па ўзгадненні з Беларуссю. Такім чынам, і пасля ўступлення ў сілу пагаднення Лукашэнку (у вызначаных межах) будзе чым «гандляваць» з Захадам.

Ні Дамова аб нераспаўсюдзе ядзернай зброі, ні іншыя міжнародныя абавязальніцтвы Беларусі не забараняюць размяшчэнне расійскага ядзернага ўзбраення на расійскай авіябазе. А ўзгадненне ці неўзгадненне (альбо звычайны блеф на гэты конт) размяшчэння расійскай ядзернай зброі на авіябазе — гэта вельмі каштоўны «тавар».

Пагадненне пачынае часова прымяняцца праз 10 дзён з даты яго падпісання і ўступае ў сілу з даты атрымання апошняга пісьмовага паведамлення аб выкананні бакамі ўнутрыдзяржаўных працэдур. На працягу 3 месяцаў з дня ўступлення ў сілу пагаднення Беларусь перадае зямлю і нерухомасць авіябазы. Пагадненне дзейнічае на працягу 15 гадоў і аўтаматычна працягваецца на наступныя перыяды па 5 гадоў, калі ніводзін з бакоў не накіруе паведамленне аб намеры спыніць яго дзеянне.

Такім чынам, час і прастора для «торгу» ёсць.

**Ягор Лебядок, намеснік загадчыка лабараторыяй у Інстытуце фізікі НАН Беларусі**

**Прыватныя абвесткі**

**Віншуем Настассю Занько і Аляксея Шатуху** з узяццем шлюбу. Райцеся і кахайцеся! Сябры



# Не падзялілі зямлю

60-гадовы мінчук забіў дзвюх жанчын. Яго знайшлі на наступны дзень. Мужчына павесіўся ў недабудаваным доме.

11 верасня ў вёсцы Каменная Горка пад Мінскам Аляксандр Каранеўскі застрэліў дзвюх жанчын з абрэза паляўнічай стрэльбы і ўцёк. Міліцыя абвесціла яго ў вышук, на выездах са сталіцы дзяжурылі патрулі, якія правяралі аўтамабілі.

Каранеўскага знайшлі на наступны дзень. Пры аглядзе аднаго з недабудаваных дамоў у Мінскім раёне было знойдзена яго цела: 60-гадовы мужчына павесіўся. Побач з ім праваахоўнікі знайшлі абрэз.

Што здарылася і чаму Каранеўскі застрэліў жанчын, пакуль не агалошваецца. Меркаваным матывам двайнога забойства з'яўляецца «сварка на глебе асабістых непрыязных адносінаў», паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Тацяна Беланог.

Па словах сваякоў, сварка адбылася праз «кватэрнае пытанне». Забітыя жанчыны — гэта сястра былой жонкі Аляксандра і яе сяброўка, якія добраўпарадкоўвалі ўчастак у вёсцы. Нібыта падзел грошай за гэтую зямлю і дом на ёй справакавалі Каранеўскага на забойства. Да таго ж раней ён меў судзімасці.

**Улад Швядовіч**

Аляксандр Каранеўскі.





БЕЛТА

Месца забойства.

# Муж пра жонку: «25 гадоў замала»

У Гомелі судзяць маці, якая **забіла двух дзяцей**.

14 верасня Гомельскі абласны суд прыняў рашэнне слухаць у закрытым рэжыме крымінальную справу ў дачыненні да 25-гадовай жыхаркі абласнога цэнтра, якая патапіла сваіх дзяцей: двухгадовага сына і 11-месячную дачку. Хадайнічала пра слуханні ў закрытым рэжыме сама абвінавачаная.

«Тут будуць абмяркоўвацца пытанні асабістага жыцця, таму я хацела б, каб суд быў закрыты», — папрасіла Аксана. Дзеянні жанчыны кваліфікаваныя як забойства малалетніх з асаблівай жорсткасцю.

Да судовага пасяджэння бацька двухгадовага Савелія і 11-месячнай Ангеліны заявіў, што хацеў бы дамагчыся пажыццёвага зняволення для абвінавачанай. Крымінальны кодэкс Беларусі прадугледжвае для жанчын максімальнае пакаранне ў выглядзе 25 гадоў пазбаўлення волі.

«Дваццаць пяць гадоў занадта мала. Хаця яе Бог пакарае, ужо пакараў. Яна вельмі любіла дзяцей, я не разумею, як гэта здарылася. Магчыма, гэтаму спрыялі сацыяльныя службы, якія пагражалі забраць дзяцей у Аксаны за тое, што ў доме было не прыбрана, напрыклад. А як яна магла заўсёды своечасова прыбірацца з двума маленькімі дзецьмі? Яна сама з дзіцячага дома, таму разумела, што там чакае яе дзяцей, калі іх забяруць», — сказаў бацька дзяцей Алег.

Ён не быў біялагічным бацькам Савелія і Ангеліны, але юрыдычна аформіў бацькоўства.

«Алег пазнаёміўся з ёй, калі Аксана была ўжо цяжарная, яе кінуў хлопец. Яны пачалі сустракацца, і Алег аформіў бацькоўства над гэтым дзіцем. Яны жылі разам, потым разышліся, і калі Аксана зноў зацяжарыла, яна засталася адна, памерла яе цётка, і яны зноў сышліся з Алегам. Так ён юрыдычна лічыўся бацькам дзяцей. Ён дзяцей вельмі любіў і дагэтуль не можа перажыць гэтае гора», — растлумачыла маці маладога чалавека Любоў Мікалаеўна. Паводле яе слоў, абвінавачаная была вельмі замкнутым чалавекам. Алкаголь не ўжывала, не курыла.

Перад судовым пасяджэннем абвінавачаная ўсміхалася, не хавала твар ад фотаапаратаў і відэакамер.

Нагадаем, вечарам 7 красавіка жанчына прымала ванну разам з двухгадовым сынам. Кіруючыся раптам узніклай задумай, яна пагрузіла дзіця ў ваду ў ванне і ўтрымлівала там да надыходу яго смерці.

Затым яна прынесла з пакоя дачку і таксама патапіла яе. Пасля гэтага жанчына прыбрала ў кватэры, дастала целы дзяцей з вады, перанесла ў пакой, апранула іх і патэлефанавала ў міліцыю.

Псіхолага-псіхіятрычная экспертыза выявіла ў абвінавачанай дыссацыяльнае расстройства асобы. Эксперты высветлілі, што ў момант забойства яна не знаходзілася ў стане афекту, магла ўсведамляць фактычны характар сваіх дзеянняў і кіраваць імі.

**Алена Германовіч, БелаПАН**

Аксана — маці, якая забіла сваіх дзяцей.



БЕЛАПАН

## Звычайная касметалагічная працэдура ледзь не прывяла да ампутацыі

Але ў студыі прыгажосці **адмаўляюць віну**.

У пачатку жніўня Тамара Камінская звярнулася ў студыю «Лазерыні». Жанчыне трэба было выдаліць бародаўку на пальцы нагі.

«Доктар сказаў, што пасля лазернага выдалення будзе пэўны час вельмі балець. Сказаў, каб я цярпела, — кажа Тамара. — Але на наступны дзень у мяне паднялася тэмпература, палец стаў пухнуць. Я звязалася з доктарам, ён запэўніў: «Нічога страшнага, не хвалюйцеся».

Але боль толькі ўзмацняўся. Тады жанчына паехала ў звычайную бальніцу. Там хірургі сказалі, што ў яе моцны лазерны апёк, і папярэдзілі, што справа можа дайсці нават да ампутацыі пальца.

«Я паехала ў «Лазерыні». Дырэктарка і доктар патлумачылі, што ў бальніцы хірургі прамылі мне рану, і таму яна будзе зажываць павольней. Прапісалі мазь Вішнеўскага і абляпіхавы алей», — расказвае Камінская.

Алнак рана не зажывала. У выніку яна ізноў звярнулася ў бальніцу. Дактары паведамілі, што праблемы сур'ёзныя і патрабуецца аперацыя па перасадцы скуры. Адну аперацыю жанчыне ўжо зрабілі: узялі кавалак скуры з ягадзіцы. Хутка чакае яшчэ адна. Агулам прайшло ўжо 1,5 месяца, як Тамара пакутуе з тым пальцам.

Але ў «Лазерыні» паведамілі, што іх віны ў тым, што здарылася, няма.

«Да нас вельмі шмат людзей звяртаецца менавіта з выдаленнем барадавак. І гэты выпадак з Тамарай — першы, калі пачаліся праблемы. Справа ў тым, што чапаць тую ранку не трэба было. Я не ведаю, хто яе прамываў, сама жанчына ці дактары. Але ж каб рану не кранулі, то не дайшло б да перасадкі скуры. Павольна, але ж зацягнулася б, — кажа Іна Прыбытак, дырэктарка «Лазерыні». — І ў тым, што адбываецца зараз з гэтым пальцам, мы не вінаватыя. Магчымасць памылкі доктара выключаная».

У сваю чаргу Тамара збіраецца ў судзе высветліць, хто мае рацыю.

«Калі б яны патэлефанавалі мне, папрасілі прабачэння, прыехалі б у бальніцу ці аплацілі хаця б лекі... Я б пайшла ім насустрач. Але ж мяне ці ігнаравалі, ці размаўлялі па-хамску, — абураецца Тамара. — Так проста я гэта не пакіну — гэта ўжо справа прынцыпу».

**УШ**

## За выкапаную сажалку аштрафавалі на 290 мільёнаў, пагражае турма

У Воранаўскім раёне індывідуальны прадпрымальнік задумаў абзавесціся ўласным вадаёмам. Ён вырашыў выкарыстаць невялікую рэчку, што цякла паблізу хутара, які дастаўся яго сваякам у спадчыну.

Разумеючы, што афіцыйны дазвол патрабуе шэраг узгадненняў, прадпрымальнік наняў экскаватар, выкапаў на двух дзясятках сотак катлаван і сфармаваў новае рэчышча для рэчкі.

У выніку копанка ператварылася ў праточны вадаём, а старое рэчышча стала папросту перасыхаць.

Незаўважаным гэта не засталося. Па выніках праверкі пракуратура раёна распачала крымінальную справу за псаванне земляў, што пацягнула прычыненне шкоды навакольнаму асяроддзю памерам амаль у 290 мільёнаў рублёў. Санкцыя артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе абмежавання альбо пазбаўлення волі на тэрмін да пяці гадоў.

**УШ**

## Сцісла

### У Віцебску згарэла сямігадовая дзяўчынка

Пажар адбыўся ў шматпавярховіку на праспекце Будаўнікоў. 26-гадовыя муж і жонка з чатырохгадовым сынам спалі ў спальным пакоі, а 7-гадовая дзяўчынка — у дзіцячым. Са слоў бацькоў, яны прачнуліся ад крыкаў дачкі. Праз адкрыты агонь і моцнае задымленне ўратаваць дзіця яны не здолелі. Бацька шпіталізаваны з атручваннем прадуктамі гарэння.

### Страшная аварыя ў Магілёве

Увечары 11 верасня легкавік «Вольва С-80» сутыкнуўся з жалезабетоннай апорай тралейбуснай лініі электраперадачы. Аўтамабіль загарэўся. Ратавальнікі ліквідавалі агонь, а ў згарэлым аўтамабілі знайшлі парэшткі трох чалавек.

### Пашырэнне падвала каштавала жыцця

У Заводскім раёне Мінска 56-гадовы мужчына капаў гараж, каб паглыбіць і пашырыць яго. Падчас работ адышла знешняя пліта падмурка пры ўваходзе ў гараж. Мужчыну расціснула.

### Чацвёртакласнік дапамог затрымаць педафіла

У канцы жніўня 11-гадовы вучань адной са школ Заслаўя расказаў бацьку, супрацоўніку ўпраўлення па наркакантролі, што на працягу апошніх дзён з ім «Укантакце» перапісваецца незнаёмец. Падазронага мужчыну, які прапанаваў хлопчыку сустрэцца, затрымалі. Высветлілася, што ён перапісваўся з некалькімі хлопчыкамі, мінімум у дачыненні да аднаго з іх пры сустрэчы ўчыніў гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару.

**УШ**

Лявону Вольскаму — 50. Але юбілейны канцэрт спявак вымушаны быў даць у падземным пераходзе.

# Яго паўстагоддзя

Юбілей музыка справіў 14 верасня. Цяжка паверыць, што яму аж пяцьдзясят гадоў: Вольскі выглядае як некаторыя ў 30. Тым часам, апошнія трыццаць гадоў Лявон — адна з ключавых персонаў на беларускай рок-сцэне. Нягледзячы на тое, што яго канцэрты ў Беларусі забароненыя, а яго песні, за рэдкім выключэннем, не транслююць па радыё, ён застаецца зоркай. Спантанны выступ у падземным пераходзе, які Вольскі зладзіў у свой дзень народзінаў, імгненна сабраў натоўп.

Лявон нарадзіўся ў творчай сям'і: яго бацька і дзед былі пісьменнікамі. Дзед Віталь, з нямецкага лютэранскага роду, стаяў ля вытокаў новай беларускай літаратуры ў 1920-я і цудам пазбегнуў рэпрэсій. Бацька Артур быў ветэранам вайны і адным з заснавальнікаў Беларускага Народнага Фронту. Сам Лявон вучыўся ў «Глебаўцы» на мастака, але захапленне музыкай пераважыла. У 1981 з аднакурснікамі ён заснаваў «Мрою» — адзін з першых рок-гуртоў, які спяваў пабеларуску.





Імправізаваны канцэрт Вольскага ў пераходзе імгненна сабраў натоўп.

Цяжкая музыка, выразны сацыяльны і нацыянальны пасыл у тэкстах — «Мроя» стала найпапулярнейшым гуртам у моладзі.

У 1994-м «Мроя» распалася. Цяжка было заставацца ў старым фармаце, калі краіна цалкам змянілася. Вольскі збірае гурт наноў як «Незалежную Рэспубліку Мроя», альбо N.R.M. Іх новая музыка — панк, грандж — легла на новыя часы: «Партызанская», «Песня падземных жыхароў», «Паветраны шар» слухаліся як песні пратэсту супраць русіфікацыі і аўтарытарызму. У другой палове дзевяностых і ў нулявыя N.R.M. быў галоўным рок-гуртам Беларусі.

Разам з удзелам у N.R.M. Вольскі эксперыментуе з супольнымі праектамі — «Народны альбом», «Святы вечар», «Я нарадзіўся тут», — стварае адпачынкавы гурт «Крамбамбуля» і рэвалюцыйны «Zet», запісвае сольныя альбомы (жартаўлівы блатняк «Куплеты і прыпевы» і сур'ёзную «Белую яблыню грому» на вершы класікаў), вядзе перадачы на незалежным радыё.

Паступова сольная творчасць пераважыла, і з 2011-га Вольскі сыходзіць з N.R.M. Ён выступае сам і з «Крамбамбуляй», сольна запісвае файны альбом «Грамадазнаўства». А сёлета Вольскі распускае і «Крамбамбулю». 7 лістапада гурт прадставіць у Вільні свой апошні альбом «Чырвоны штраль». «Там я пастаўлю яшчэ адну кропку і пачну пісаць новую аповесць», — кажа Лявон. Што ён нам рыхтуе?

**Аляксандр Арсёнаў**

## Беларуская «Вікіпедыя» перарасла «Вялікую савецкую энцыклапедыю»

У беларускім раздзеле анлайн-энцыклапедыі «Вікіпедыя» афіцыйным правапісам («наркамаўкай») амаль 100400 артыкулаў. У інтэрнэце яе можна знайсці па адрасе *be.wikipedia.org*. Сярод іншых моўных раздзелаў яна на 52-м месцы па колькасці артыкулаў, следам ідуць хіндзі, азербайджанская і грузінская. «Вялікая савецкая энцыклапедыя» ў трэцім выданні налічвала толькі 95 тысяч артыкулаў.

А існуе ж яшчэ «Вікіпэдыя» — беларускі раздзел класічным правапісам («тарашкевіцай»), які налічвае 57100 артыкулаў і знаходзіцца па адрасе *be-tarask.wikipedia.org*.

Прачытаць у «Вікіпедыі» можна пра што заўгодна: напрыклад, на гэтым тыдні на галоўнай старонцы «Вікіпедыі» («наркамаўкай») стаяць артыкулы пра экспедыцыю Шэклтана-Роўэта 1921—1922 гадоў і генацыд у Руандзе, а ў «Вікіпэдыі» («тарашкевіцай») — пра касцёл Святых Янаў у Вільні і выбух на станцыі метро «Кастрычніцкая».

«Вікіпедыю» (і «Вікіпэдыю») пішуць самі карыстальнікі: любы ахвотны можа стварыць ці адрэдагаваць артыкул. Галоўнае, каб гэта было не аўтарскае даследаванне, а інфармацыя з аўтарытэтных крыніц, напісаная энцыклапедычным стылем.

**АА**

## Brutto выдалі другі альбом: Міхалок набрыняў

«Родны край» у параўнанні з дэбютным «Underdog» гучыць шчыльна і ўпэўнена.

Мінуў год ад дэбюту новага гурту Сяргея Міхалка: 12 верасня 2014-га Brutto выдалі «Underdog», 14 верасня 2015-га — «Родны край». Новы альбом можна бясплатна паслухаць і спампаваць на сайце інтэрнэт-часопіса *34mag*.

Нягледзячы на беларускую назву альбома, асноўная маса песень на ім па-руску. На беларускай толькі тытульны трэк ды «Будзь смелым» на словы Якуба Коласа. Ёсць і англамоўная «*Moscow Calling*» (з хітом *Gorky Park* звязаная толькі назвай). Палова альбома — новы матэрыял. Са спадчыны «Ляпісаў» — толькі «Воіны святла».

Другі альбом не такі мінімалістычны, як першы: шчыльнейшыя ўдарныя, заўважныя клавішныя, неаднастайныя гітарныя партыі. Вакал упэўнены, меней «дваровы». Вакалісты яшчэ спяваюць прыпевы-крычалкі, ды ўсё менш пра мячы і гіры, больш пра рэвалюцыі. Знайшлося месца і для «Праспэро» — амаль балады. Складаецца ўражанне, што музыкі за год шмат чаму навучыліся, хоць іх біяграфіі падказваюць, што тое яны ўмелі і раней.

Гурт жыве ва Украіне, але адчуваецца, што сумуе па Беларусі (асабліва востра адчуваецца гэтая туга ў эпічна-сюррэалістычным кліпе на тытульную песню). Ды Беларусі ў канцэртных планах няма: з кастрычніка *Brutto* едзе ў тур па Еўропе, у лютым адыграе ў сямі мегаполісах ЗША.

Міхалок у інтэрв'ю абяцаў больш «не строіць з сябе Агнію Барто»: песень кшталту «аднаскладовага» «Мяча» і праўда ў альбоме няма, ды гэта яшчэ не паэзія ўзроўню «Грай». Здаецца, што Міхалок набрыняў і гатовы раскрыцца напоўніцу ў трэцім альбоме. «Родны край» жа пакідае ўражанне недаказанасці, плытка сціхае як бы на сярэдзіне. *Brutto* яшчэ не ўсё сказалі.

**АА**




Жыхар Ляхавіцкага раёна, былы старшыня калгаса імя Ламаносава Генрых Трацціяк, выкупіў гістарычную сядзібу. «Абышлася яна мне з афармленнем у 500 даляраў, на той момант прыкладна дзве пенсіі», — успамінае Генрых Трацціяк. Калісці ў сядзібе Фларыянава месцілася праўленне калгаса, дзе Генрых Міхайлавіч працаваў 28 гадоў. У 1997 годзе ён пайшоў на пенсію, а новы старшыня перавёў кантору ў іншы будынак. Сядзіба прастаяла без гаспадара 14 гадоў. Сёння Генрых Трацціяк кожны месяц аддае на аднаўленне сядзібы 50% сваёй пенсіі. Зрабіў падвесныя столі, залатаў дзіркі ў падлозе. Збіраецца стварыць там «Дом адпачынку ў пана». Бо калісці гэта быў панскі маёнтак Бохвіцаў.

Паводле слоў гаспадара, у гэтага месца адмысловая энергетыка і яго трэба абавязкова захаваць. «Я браў сядзібу не для таго, каб займацца камерцыяй. Хочацца захаваць прыроду, пасаджаныя дубкі, архітэктуру, — падзяліўся сваімі думкамі Генрых Трацціяк. — Тут само паветра гаючае, яно і мяне лечыць ад усіх старэчых балячак».

**Таццяна Некрашэвіч, фота: Аляксандр Кораб; intex-press.by**

## Сціслa

### Сын Шварцэнегера зняўся ў сваім першым серыяле

21-гадовы Патрык Шварцэнегер, сын славутага Тэрмінатара, дэбютуе на тэлеэкране 22 верасня ў першым сезоне серыяла «Каралевы крыку» тэлеканала *Fox*. Юны Шварцэнегер ужо здымаўся, але ў эпізадычных ролях. Налета ж выйдзе першы сур'ёзны кінапраект з удзелам Патрыка Шварцэнегера: «Палярны дзень» — рэмэйк аднайменнай японскай драмы Нарыхіда Каізумі. Не перастае здымацца ў кіно і 68-гадовы Арнольд Шварцэнегер. Яго «Тэрмінатар: Генезіс» сабраў 435 млн даляраў, анансаваная і драма «478» з яго ўдзелам.

### У Беларусі скарачаецца колькасць бібліятэк

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік. Так, за 2013—2014 гады сетка публічных бібліятэк у Беларусі была скарочана на 573 адзінкі, 94% з іх — сельскія бібліятэкі.

Пры гэтым намеснік міністра падкрэсліў, што бібліятэкі ліквідаваліся перш за ўсё ў маланаселеных пунктах і прымаліся «ўсе меры для захавання інфармацыйна-бібліятэчнага абслугоўвання насельніцтва». «Там, дзе гэта было магчыма, аб'ядноўваліся сельскія публічныя і школьныя бібліятэкі, максімальна выкарыстоўваюцца нефармальныя формы абслугоўвання», — растлумачыў ён. Усяго ў краіне працуе 7,7 тыс. бібліятэк, сукупны фонд якіх складае больш за 180 млн адзінак захоўвання. У падпарадкаванні Міністэрства культуры знаходзяцца 2916 бібліятэк, з іх 2306 — сельскія.

**АА, паводле БелаПАН**

# Якім чынам Беларусь даціруе расійскую фінансавую сістэму

**І як гэта прыводзіць да перыядычных дэвальвацый.**

Па меркаванні *Wall Street Journal*, Беларусь — адна з 7 краін, якім свеціць банкруцтва (глядзі табліцу).

| Краіна | Украіна | Грэцыя | Венесуэла | Беліз | Ямайка | Аргентына | Беларусь |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рэйтынг (Moody's) | Ca | Caa2 | Caa3 | Caa2 | Caa2 | Caa1 | Caa1 |
| Прагноз | Негатыўны | пад пераглядам | Стабільны | Стабільны | Пазітыўны | Негатыўны | Негатыўны |
| Знешнія дзярж. пазыкі (%% ад ВУП) | 94.1% | 172.7% | 39.6% | 75.7% | 132.8% | 49.5% | 39.6% |

**Сем краін, якім, на думку Wall Street Journal, свеціць банкруцтва.**

Логіка спісу простая — цяпер у свеце 7 краін са спекулятыўным рэйтынгам. Вы, напэўна, заўважылі, што сярод спісу ў нас найменшая за іншых пазыка. Ну, яшчэ баліварыянская Венесуэла. Але ж чаму мы? Чэргаў па ежу ў нас няма. Гісторыі рэгулярных дэфолтаў, як у галоўнага расчаравання XX стагоддзя — Аргенціны, таксама. І вайны няма, чым мы і ганарымся як галоўным палітычным дасягненнем за 25 гадоў. Мо экзотыка? Беларусь — апошняя дыктатура Еўропы... Гучыць як рэклама экзатычнага адпачынку, нібы сафары ў Танзаніі ці падарожжа па джунглях Інданезіі.

Раней Беларусь не была заўважаная ў нявыплатах, але ж апошнія гады стала агрэсіўна нарошчваць пазыкі. Не ад вялікага шчасця, вядома. Падаецца, у 2014 годзе доўг быў стабілізаваны, але цяпер ён зноў пачаў расці. Да таго ў нас прыпаў экспарт.

Як выглядае мадэль нашай эканомікі?

Асноўнае — замежны гандаль. Беларусь, як малы рынак, жыве ім. Пры гэтым застаецца адносна закрытай эканомікай са сваімі адміністратыўнымі і юрыдычнымі асаблівасцямі. Людзі працуюць на экспарт-імпарт, але жывуць і спажываюць адносна ізалявана ад знешняга рынку, ну, калі ў Вільню ці Беласток не ездзяць. Гэта традыцыйная мадэль (асабліва паміж сусветнымі войнамі) XX стагоддзя. Прамысловы патэрналізм, дырыжызм і бла-бла-бла... Па сутнасці, эканоміка мае два вялікія колы:

А) Сыравіны і базавых матэрыялаў — гэта калій, нафтаперапрацоўка і хімія. Гэта даляравыя галіны, бо падлік вядуць па законах сусветнага рынку. Былі і ёсць асаблівасці саюзных зносін, але хто там не працуе, гэтага не адчуў. Сярод экспарту прадуктаў хіміі і нафтаперапрацоўкі каля 60% ідзе па-за СНД. А з краін СНД, вядома, Украіна.

Б) Прамысловага і аграпрамысловага прыдатку да расійскай сыравіннай эканомікі. Тут складаней — бо сыравіна і энергія купляюцца за жывую валюту, а прадукцыя ідзе за расійскі рубель. Тут працуюць па паняццях нашых постсавецкіх дзяржаваў, а канкурэнты — такія ж прадпрыемствы Расіі і Украіны, а таксама вялікі і непераможны ў лакальных бойках, за кошт сваёй эканоміі па памерах, Кітай. Бо еўрапейскай якасці ў нас няма, анягож. Доля Расіі ў аграпрамысловым экспарце — 95—97% па большасці буйных таварных групаў.

Адбіваецца гэткая бізнэс-мадэль на ўнутраным рынку. Ён, у адрозненне ад замежнага, рэгулюецца нярынкавымі інструментамі. Беларускі сярэдні тэмп інфляцыі большы за 2% за месяц (!!!) — і гэты жах у нас завецца стабільнасцю.

З такой інфляцыяй ніколі не будзе «высокіх» сярэдніх заробкаў. Гэта немагчыма матэматычна. Заробкі заўжды будуць індэксавацца з-за такой мадэлі эканомікі. Дарэчы, гэта таксама нярынкавая з'ява, бо заробкі таксама нярынкавая. Заробкі не індэксуюцца, а зарабляюцца — расце створаная дадатная вартасць, растуць і заробкі. Як і пенсіі — фонды зарабляюць на інвестыцыях, пенсія расце. А ў нас дадайце архаічную сістэму пенсійнага і сацыяльнага забеспячэння ў плечы. Нашыя дзеткі будуць гараваць за дваіх-траіх, каб забяспечыць мінімальныя пенсіі нам і смешныя заробкі сабе... А ім гэта трэба, вы пыталі? Але.

Кожны бізнэс-план, кожная фінансавая мадэль маюць такі артыкул, як стрэс-тэст, альбо ацэнка адчувальнасці. Гэта калі вы ацэньваеце, як зменяцца вынікі працы пры змене асноўных параметраў: тэмпаў продажаў, кошту сыравіны, інфляцыі і г.д. Тое, што адбываецца, ёсць вынікам таго, што рызыкі беларускае мадэлі ніхто не лічыў патрэбным ацэньваць і страхаваць.




Як вядома, апошнія 20 год мы будуем саюз з Расіяй. Гэта канчаткова прывязала нашую бізнэс-мадэль карпаратыўна-казарменнае дзяржавы да расійскага рынку, адпаведна:

А) Беларусь залежыць ад палітыкі Масквы, якая да 2008 года была тыповай для краіны-экспарцёркі сыравіны — рэнтная мадэль, не вельмі выгадная Беларусі. Але пакуль нафта і расійскі рубель раслі, ніхто не заўважаў перакосу і рызыкі. Асабліва тыя, хто атрымаў тут лакальную манаполію на экспарт-імпарт (тая ж рэнтная мадэль). Але з 2008 з першым цэнавым шокам мы адчулі «рускі фактар»: са скокамі курса рубля ад бягучае плацежнае кан'юнктуры, з уцёкамі капіталу, з войнамі з суседзямі. І ўжо стала бачна няўзброеным вокам, куды ўсё патроху сунецца.

## Нам не трэба агульная нацыянальная ідэя, нам трэба агульныя нацыянальныя правілы

Б) Беларусь падтрымлівае сваю канкурэнтаздольнасць адносна іншых вытворцаў краін СНД і Кітая метадам канкурэнцыі цэн, г.зн. прадаючы па нізкіх цэнах. Таму, калі расійскі рубель перастаў расці, прыйшлося рэгулярна дэвальваваць свой рубель і адносна расійскага.

Купляем за даляры нафту, метал і газ, вырабляем прадукцыю, прадаём за расійскія рублі танней за канкурэнтаў, мяняем рублі на даляры, каб купіць нафту, метал і газ... Кан'юнктурныя цыклы цэн на сыравіну, прадукты ды прымасловыя тавары паміж сабою не супадаюць. Таму бац, у нас касавы разрыў, даляраў бракуе, бярэм крэдыт — і па новай. І вы яшчэ дзівіцеся, чаму ў Беларусі тыя ж самыя прадукты даражэйшыя, чым у Расіі? Наогул, калі раскідаць нашую харчовую прамысловасць па ўсім ланцужку стварэння кошту — ад загатоўкі кармоў да экспарту прадукцыі ў Расію, — выйдуць мільярдныя страты. Але ніхто гэтак не хацеў лічыць. Валавы памер важнейшы! Прыбыткі ў нас прыватызуюцца, а страты нацыяналізуюцца.

Па сутнасці, цягам саюзных зносін Беларусь падтрымлівае — даціруе сваёй і без таго не вельмі эфектыўнаю працаю — расійскі рубель і расійскую фінансавую сістэму, якая была накіравана на максімізацыю сыравіннае рэнты і казала нам: вялікі дзякуй, лохі!

«Газпром» апасля таго, як набыў «нікому непатрэбную трубу», ад шчасця пачаў прымаць і расійскія рублі, але зноў жа толькі пад канвертацыю кошту ў далярах! Пры гэтым і зямлю ў Беларусі пачаў атрымліваць задарма пад свае праекты. І вы яшчэ здзіўляецеся, чаму тутэйшыя банкі належаць рускім?

Але нашыя мегаэканамісты ды супергаспадары працягваюць гуляць у глабальных карпаратыўных босаў — ва ўсіх праблемах, маўляў, сусветны крызіс вінаваты: Кітай гальмуе, попыт на сыравіну падае, у Бразіліі каву пажраў жук, у Шры-Ланцы чай не ўрадзіў ад засухі. А вы тут да чаго?

Спачатку трэ' было навучыцца рабіць добра сваю справу. Таму, канечне, непрыемна аўтарам беларускае мадэлі атрымаць шок у выглядзе зніжэння цэн экспарту ў Расію ў гэтым годзе. Выпаў мільярд пад пасяўную, і пад жніво гэткая ж дзірка. Як гэта было непрадказальна! Ніхто не мог падумаць нават! Ніхто не рабіў стрэс-тэста сваіх геніяльных планаў. Вось ён сам зараз прыйшоў.

Увесну мінулага года я браў крэдыты ў расійскіх рублях. Няшмат, але каб было. І ўсім раіў! Асабліва дзяўчатам, якія мараць аб Парыжы. Бярэш на 3 гады, канверціш у даляры — і плаці потым з кожным месяцам усё меней. Калі гэтак робяць усе вядомыя банкі і банкіры, калі гэтак робяць нават простыя гарадскія абібокі, як я, чаму ж, ёлкі-палкі, гэтага не маглі зрабіць беларускія гандлёвыя дамы ды экспарцёры?

У нас занадта простая (правільна сказаць — «прымітыўная», бо састарэлая) эканоміка. А гэта залежыць ад стану грамадства. Чым менш сувязей паміж удзельнікамі працэсу і чым менш жыхароў з'яўляюцца паўнавартымі ўдзельнікамі, тым прасцейшая эканоміка.

Калі вы займаліся бізнэсам ці працавалі ў кампаніі, большай за 5—10 чалавек, то заўважалі, што на пэўным этапе трэба пачынаць дэлегаваць працу іншым людзям, бо сам усё не паспееш. А там і яны пачынаюць, бізнэс расце, сістэма становіцца больш складанаю. Так і тут.

Эканоміка — гэта тое, што адбываецца. Усё людское грамадства не можа служыць альбо ахвяраваць сабою пад нейкія звышідэі невялікай сваёй часткі.

Давер стварае пазітыўную адваротную сувязь паміж удзельнікамі эканомікі. Адпаведна, падазронасць — негатыўную. Я цябе ведаю, ты мяне ведаеш. Давяраем адзін аднаму — робім бізнэс.

Задача грамадства — ствараць магчымасці для ўсіх. А для гэтага трэба, каб і правілы былі для ўсіх, і інфармацыя гэтаксама. Каб абыход правіл не даваў звышвыгаднага становішча, а наадварот. Тады давер будзе, як тая лаза, расці і заплятацца паміж людзьмі. Чым складанейшыя сувязі ў грамадстве — тым лепей. Чым лягчэйшы доступ да інфармацыі — тым лепей. І каб сярод нас ніхто, ані адзін Іван Іванавіч, нават калі яму мроіцца прамая лінія з Богам, не мог раптам па-валюнтарысцку мяняць ці пазбягаць правіл. На самай справе для гэтага нам і трэба тая дзяржава як інстытут, бо ўсе астатнія бытавыя пытанні можна вырашаць самім, без яе. Нам не трэба агульная нацыянальная ідэя, нам трэба агульныя нацыянальныя правілы. Менавіта таму, напрыклад, дзяржава друкуе грошы, а не якое прыватнае прадпрыемства! Як найвышэйшы гарант правіл.

І вось таму мы, як дзяржава, як грамадства, мала прыемныя для інвестараў.... Бо не падабаецца наш калектыўны характар. Паасобку мы збольшага людзі добрыя, шмат хто яшчэ і ветлівы, некаторыя нават усміхаюцца. Але сукупна дамінуе нейкая апалітычная пракрастынацыя — лепш не варушыцца, лепш нічога не мяняць, абы толькі мне горш не было. У выніку тая лаза даверу і не расце, ні паміж намі, ні да нас.

А некаторыя альтэрнатыўна адукаваныя яшчэ мусяць абрываць ды падразаць той давер, што ёсць. І ставіць грыфы «сакрэтна» на кожную партыю туалетнай паперы. Беларусь не гуляе па правілах, таму і не давяраюць. І мы не давяраем адзін аднаму, бо правілы ў нас паміж сабою розныя. Хто мусіць круціцца на дзвюх працах, а хто атрымліваць самую дарагую ў краіне зямлю без конкурсу і аплаты ці мільённыя крэдыты з негатыўнаю рэальнаю стаўкаю.

Толькі і застаецца калі-нікалі пад каву ці піва летуценна зайздросціць Сінгапуру, Даніі, Фінляндыі ці Швейцарыі (якія яшчэ ролевыя мадэлі прыгадаеце?) ды шукаць якіх пабочных праяваў самарэалізацыі. Гэта і ёсць наш кактэйль стабільнасці. Беларускі саўэр. Самі намяшалі, самі і працягваем піць. І куды гарчэйшы ён ад таго, што пакідаем рэцэпт дзеткам.

**Мардэхай Валошка**

Невялічкая вёска пад Горадняй дала свету трох удзельнікаў Кастрычніцкага перавароту і галоўнакамандуючага збройных сілаў БНР падчас Слуцкага паўстання Андрэя Якубецкага.

# Сухмяні: радзіма галоўнакамандуючага


Мікалай Антонавіч і Надзея Іосіфаўна.


Хата, у якой некалі жылі Якубецкія, а цяпер — зусім іншыя людзі.


Андрэй Якубецкі з жонкай Нінай. Дзвінск, 1931.


Андрэй Якубецкі і Кузьма Цярэшчанка, восень 1920.

Калі ўзіраешся ў чорна-белыя аблічча з ілюстраванага дадатка да зборніка «Слуцкі Збройны Чын», цяжка абмінуць суворы погляд чалавека ў вайсковым шынялі без знакаў адрознення ды ў светлай папасе. Твар скуласты, напяты, зубы сціснутыя. Гэта восень 1920-га. Праз пару старонак яшчэ адно фота таго ж чалавека — у пінжаку з мятлікам, лёгкай усмешкай на твары, побач — жонка Ніна. Гэта ўжо 1931 год, Дзвінск.

На гэтым, бадай, усё. Іншыя вывы Андрэя Якубецкага, прынамсі ў публічным доступе, невядомыя. Пры тым, што Якубецкі — старшыня Беларускай Вайсковай Камісіі, галоўнакамандуючы збройных сілаў Беларускай Народнай Рэспублікі падчас Слуцкага паўстання, камандзір Першай Слуцкай брыгады... Асоба ўзроўню Кастуся Езавітава.

Паходзіў Якубецкі з Сухмянёў, што пад Горадняй. Сказана — зроблена, едзем...

На ўездзе ў вёску стары мураваны крыж з агароджай 1910 года. Крыжы ў такой стылістыцы — каталіцкая традыцыя, але рэгіён памежны, таму анічога дзіўнага тут няма. Праз пару хатаў спыняемся каля плота, за якім бабулька абрабляе бульбу. Пытаемся, ці засталіся ў вёсцы Якубецкія.

— Не жывуць ужо, была хата, але згарэла. Толькі грушкі, што пры ёй раслі, засталіся.

Няўцешны адказ тым не менш не спыняе — трэба шукаць. Едзем далей. Наступны суразмоўца выявіўся гараджанінам, які набыў сабе хату ў якасці дачы. Пытаемся ў яго пра старажылаў. Вусаты дзядзька скіроўвае нас да 82-гадовай Надзеі Іосіфаўны. Яна — найстарэйшая жыхарка Сухмянёў. Бабулька пасля пытанняў пра Якубецкіх відавочна губляецца, да дапамогу ёй прыходзіць крыху маладзейшы Мікалай Сколыш.

— Якубецкая — дзявочае прозвішча маёй маці, — распавядае Мікалай Антонавіч. — Цяпер Якубецкіх у вёсцы не засталося, а раней былі, так.

Спадар Мікалай цікавіцца, хто такі Андрэй Якубецкі (па вымове старога — «А-кубецкі»), пасля чаго распавядае, што вёска вядомая зусім іншымі «героямі»: тры ўраджэнцы Сухмянёў бралі ўдзел у Кастрычніцкіх падзеях 1917-га...

— У Саюзе пасля рэвалюцыі яны займалі высокія пасады. Ваўрэнік быў дырэктарам мэблевай фабрыкі. А вось Ашурка ўжо пасля сюды прыехаў і ... пасадзіў старшыню калгаса. Тры гады далі. І Макарэвіч, які служыў на «Аўроры», у канцы жыцця вярнуўся і тут дажываў.

— Дык у вас вёска рэвалюцыйная...

— Гэта пераварот! Якая там рэвалюцыя... — уздыхае стары. — Бальшавікі забралі ўладу, і ўсё...

У Сухмянях жыло некалькі сем'яў з прозвішчам Якубецкія, усе сваякі. Але цяпер прамых нашчадкаў з іх прозвішчам не засталося. Пры канцы Мікалай Антонавіч раіць паглядзець хату, дзе жыў нехта з Якубецкіх, а таксама заехаць на старыя парафіяльныя могілкі ў Капцёўку, дзе могуць быць пахаваныя прадстаўнікі роду.

Капцёўка зусім побач. Калі выязджаеш з Сухмянёў, з-за шапкі лесу бачны купал капцёўскага касцёла, які стаіць на ўзгорку. У мястэчку здаўна жылі разам прыхаджане дзвюх канфесій, цяпер ксёндз сабраў побач з касцёлам цікавую калекцыю старадаўніх каменных надмагілляў са знакамі, але гэтым разам нам трэба праваслаўныя могілкі побач з царквой-мураўёўкай.

Знайсці Якубецкіх тут не так і проста. Іх пахаванні ў дальнім канцы могілак, зарослыя маладымі клёнамі. За агароджай пазначаны тры магілы: бетонны паваленны помнік з двума партрэтамі-медальёнамі (тут пахаваны малодшы брат Андрэя — Міхаіл), паваленны чорны металічны крыж і гранітны камень з распяццем зверху. На камені — надпіс пабеларуску. Пад ім пахаваны Павал Якубецкі — бацька Андрэя.

Пра Паўла Якубецкага вядома няшмат. У пачатку 1919 года ён быў сябрам Арганізацыйнага камітэта па скліканні беларускага краёвага з'езда Гарадзеншчыны. Летам 1920-га — інструктар Гарадзенскага Беларускага Нацыянальнага Камітэта, вясной 1922-га — сябра Гарадзенскага беларускага паўстанцкага акруговага штаба... Вядома, што Павал знаходзіўся пад пільным наглядам польскай дэфензівы, шмат у чым праз сына, які паспеў адседзець за беларускую справу і ў польскай, і ў латыскай турме.

Бацька галоўнакамандуючага БНР, згодна з надпісам на помніку, пражыў 72 гады і адышоў у 1934-м. Пра лёс брата Міхаіла, пахаванага тут жа, невядома анічога. Ад Андрэя ж не засталося і магілы. І абставіны яго смерці дагэтуль таямніца. След губляецца недзе ў 1944-м у Дзвінску, дзе Якубецкі займаўся разам з Езавітавым беларускімі справамі.

У Якубецкага з Езавітавым нагогул шмат падобнага. Абодва прайшлі школу Першай сусветнай вайны, абодва заангажаваліся па поўнай у справу арганізацыі войска БНР, абодва з'ехалі ў Латвію, дзе мелі канфлікты з уладамі праз беларускую нацыянальную дзейнасць, абодвух палякі лічылі «савецкімі агентамі», абодва актыўна не ўлазілі ў справы стварэння беларускіх частак пры немцах падчас Другой сусветнай... Нават знешне яны былі падобныя: шырокі вуглаваты твар, моцнае падбароддзе, глыбока пасаджаныя вочы...

Лічыцца, што Кастуся Езавітава ў палаючым Берліне арыштавалі байцы СМЕРШу праз здраду ад'ютанта. Куды знік Якубецкі — невядома. Але наіўна меркаваць, што ён не ўяўляў цікавасці для савецкіх спецслужбаў — нават у святле «старых грахоў» часоў грамадзянскай вайны.

Цікава, што на капцёўскіх могілках трапляюцца і іншыя старыя пахаванні з беларускамоўнымі подпісамі. Напрыклад, гранітны камень з неахайна падведзеным надпісам на магіле Язэпа Шышлюка, памерлага ў 1931 годзе. Шышлюк быў мясцовым настаўнікам, таксама ўраджэнцам Сухмянёў, сябрам ТБШ у Бурлівых для Заходняй Беларусі 1920-я. У архівах польскай паліцыі ён характарызуецца як «...радыкальны дзеяч на культурна-асветніцкім грунце».

Калі прагуляцца крыху ў бок касцёла па тых жа праваслаўных могілках, можна натрапіць і яшчэ на адну цікавую магілу. Пахаванне паваеннае, 1961 года, але подпіс і нават эпітафія — беларускамоўныя. Нашчадкі, імаверна дзеці, змясцілі наіўны і адначасна кранальны верш:

«Салавейка на магілку
Нашай мамкі прылятай
Сваёй песенькай вясёлай
Нашу мамку пабуджай...»

Ці мела пахаваная тут жанчына, Ганна Куліпа, нейкія адносіны да беларускага руху? Сказаць складана. Магчыма, беларускамоўныя надпісы на магілах вяскоўцаў — плён руплівай працы ў міжваенны перыяд таго ж настаўніка Язэпа Шышлюка.

Ад'язджаем з Капцёўкі праз незвычайную алею з тоўстых сосны. На выездзе ў бок Горадні — два крыжы, праваслаўны і каталіцкі. Адзін з іх на пачатку лета знявечылі вандалы, а сярод мясцовых пачалі гуляць чуткі, што гэта справа рук міфічных «бандэраўцаў»... ТВ працуе, што тут дадаць.

Ведалі б такія Якубецкія ды Шашлюкі, каго іх землякі звінавацяць на ўсіх смяротных грахах менш як за стагоддзе. Можа, таму і з «герояў» мясцовыя памятаюць адно бальшавікоў з «Аўроры». Таму і магіла Паўла стаіць зарослая маладымі клёнамі, якія з часам, набраўшы сілы, вывернуць гранітны камень ды знявечаць агароджу... Тым не менш у такія месцы варта вяртацца. Наступным разам — з сякерай, пэндзлем ды залатой фарбай.

**Алесь Кіркевіч**

**Прашу ўдакладніць**

## Колькі год беларускаму школьніцтву?

Спачатку я думаў, што гэты «ляп» належыць выключна газеце «Наша слова». Гэта яна ў нумары за 26 жніўня абвясціла, што сёлета спаўняецца «100 гадоў беларускамоўнай адукацыі новага часу».

Хацеў быў напісаць рэдактару «Нашага слова» ліст. Ажно разгортваю нумар «Нашай Нівы» і бачу тое самае: «Беларускаму школьніцтву сто гадоў». Што цікава, пад гэтым загалоўкам друкуецца гутарка са спецыялістам у галіне гісторыі адукацыі Уладзімірам Ляхоўскім. Яшчэ цікавей тое, што пачаткі сучаснага беларускага школьніцтва Ляхоўскі, як і належыць адмысловцу, бачыць у 1908 годзе. Тады ў Сенненскім павеце, у маёнтку Гардзялкоўскіх, працавала беларуская школка, у якой выкладаў Якуб Колас. У літаратуры ёсць таксама звесткі пра школку ў маёнтку Корсакаў (Дрысенскі павет) і ў маёнтку Прусан пад Крычавам (ці не сучаснае Прусіна гэта?).

Такім чынам, да прыходу ў 1915 г. немцаў у Заходнюю Беларусь у краіне ўжо меліся першыя спробы арганізаваць беларускае школьніцтва. Мелася і пэўная база для навучання па-беларуску. Вацлаў Іваноўскі ў супрацы з Мар'янам Фальскім ды Карусём Каганцом падрыхтаваў першы беларускі лемантар лацінкаю і кірыліцаю (1906), а Цётка склала першую чытанку для дзетак беларусаў (1906). З'явілася і кніжка з прыродазнаўства — «Гутаркі аб небе і зямлі» (1907). Але — падкрэслю — школкі былі нелегальныя.

З прыходам немцаў і з усталяваннем нямецкай адміністрацыі ў заходняй частцы нашай краіны (Віленская, Гарадзенская і Менская губерні) беларуская мова — нароўні з ідышам, літоўскай і польскай — атрымала афіцыйны статус. На моцы дырэктывы Паўля фон Гіндэнбурга беларуская мова стала мовай навучання, а беларускія школы — легальнымі ўстановамі. Гэтая дырэктыва была выдадзена 22 снежня 1915 г., а апублікавана 16 студзеня наступнага года. Што праўда, засноўваць свае школы беларусы пачалі трохі раней. Да 16 снежня 1915 г. у Вільні былі адчыненыя школкі на Лукішках (Свята-Юрскі праспект, 44) і на Антокалі (Антокальская, 23). Яны — падкрэслю —- былі цалкам легальныя.

Такім чынам, беларускаму школьніцтву спаўняецца сёлета 107 гадоў (калі лічыць школку ў маёнтку Гардзялкоўскіх самаю першаю). Легальнаму ж, афіцыйнаму школьніцтву сёлета спаўняецца 100 гадоў. Згадзіцеся, паміж выразамі «100 год беларускаму школьніцтву» і «100 год беларускаму легальнаму школьніцтву» маецца істотнае адрозненне.

**Анатоль Сідарэвіч**

# Задні мост камсамолкі

Апавяданне. Піша **Таццяна Барысік**.

Не ведаю на кепскае тое ці на добрае: людзі, як пасталеюць, забываюцца на свае дзіцячыя гульні. Трымаць у галаве ўсё назапашанае шкодна. Глузды зламацца могуць.Таму памяць старанна вынішчае ўсялякую непатрэбшчыну. Але самаробнае цацачнае радыё ў выглядзе суседскага ката, гвалтам засунутага ў скрыню, хованкі ў цёмнай шафе, лялька з адламанай нагою нікуды не знікаюць. Насуперак здароваму сэнсу яны ўсплываюць з нябыту, каб пацешыць падрослых нашчадкаў згадкамі бацькоўскага маленства і працягнуць сваё нябачнае кіраванне дарослым жыццём.

А я дык пра тую гульню памятаю ўсё. І наракаць няма сэнсу. Штодзённае існаванне не дае памяці знішчыць усё, звязанае з ёю, незалежна ад майго жадання...

Не магу забыцца на гарачыню кубанскага неба, зялёныя абрыкосавыя шаты і заўсёдную чараду тамтэйшых бараноў пад імі. Хацелася б яшчэ дзеля прыгажосці прыплесці сюды цень платанаў, якія, магчыма, нават раслі на тэрыторыі летніка адпачынку і працы, толькі я ні тады, ні цяпер не ведаю, як яны выглядаюць. На жаль, маё знаёмства з паўднёвым раслінным светам звялося да вялізнага куста чорных ягадаў ля сталоўкі, падобных на ажыны, толькі салодкіх на смак. Шчаслівая тым, што іх мала хто ўпадабаў і агледзеў, я ў вольны час бегла да таго куста і ласавалася. Мае вусны ў момант рабіліся сінімі, а душа поўнілася радасцю існавання. Тым памятным апоўднем тамака мяне і заспела суседка па бараку, скалануўшы лагерныя абсягі гучным «Бяжы хутчэй у корпус, дзеўкі гуляць клічуць!».

Высветлілася, што маім сяброўкам і аднакласніцам стала сумна, яны вырашылі зрабіць сюрпрыз для ўсіх ахвочых — зладзіць нейкую захапляльную гульню. Зачыніліся ў пакоі, завесілі вокны, загадалі заходзіць па адным, як да доктара. Покуль я дабегла, то была ўжо чацвёртай ці трэцяй. Дачакаўшыся чаргі, увайшла ў пакой. Не паспелі дзверы зачыніцца, як нечаканае «Ці жадаеце вы ўступіць у камсамол?» збіла мяне з панталыку. Пасярод пакоя стаяла мая сяброўка Воля з аркушам паперы, насупраць яе — нейкая лаўка, засланая капай, па розных баках якой сядзелі Іра з Галяй. Гэта было адзінае, што я паспела агледзець. Уся мая ўвага скіравалася на Вольгу, яе дзіўны зварот на Вы і недарэчнае пытанне. Ужо ва ўсю гула перабудова, па горадзе зрэдчасу лunалі бел-чырвоныя сцягі, пагадзіцца на такую прапанову мог хіба што глухі, сляпы і дурны адначасова. Увосень тое самае, але надта сарамліва, ужо прапанoўвала ўсяму класу завуч па выхаваўчай рабоце — безвынікова.

— Ці хочаце вы ўступіць у камсамол? — зноў настойліва паўтарыла Воля.

— Не, не хачу! — рашуча абазвалася я, уклаўшы ў гэтыя словы ўсю моц пратэсту дзіцяці часоў перабудовы.

— Ну, гэта ж такая гульня, усе кажуць «так», — ласкава, але ўпэўнена ўгаворвала Воля.

І мне падумалася: што я губляю? Ну, не пагаджуся, сыду, так і не дазнаўшыся, чым усё скончыцца. А што далей? Ягадамі ўжо аб'елася па вушы. Сядзець на лаўцы ў самоце і чакаць вечара? Таксама не варыянт! Карацей, саспелая падлеткавая цікаўнасць узяла верх над няспелаю грамадзянскай пазіцыяй:

— Так! — выгукнула я.

— Тады сядайце, я вам нешта зачытаю, — загадала Воля, пазіраючы ў свой аркуш.

Заспакоеная, сунуся да лаўкі. Спрабую сесці між Іраю і Галяй. Яны ўстаюць, раптоўна абрынаецца лаўка, абрынаецца капа, абрынаецца ўвесь белы свет і ляцiць долу. Я, нічога не сцяміўшы, лячу разам з усім і пад гучны рогат сябровак ляскаюся аб падлогу задніm мостам. Азадак і левая нага смыляць як мае быць, з цяжкасцю ўзнімаюся і толькі тады пачынаю разумець: ніякай лаўкі тут і блізка не стаяла, а былі два зэдлікі, між імі капа, якую ўтрымлівалі дзеўкі па баках усеўшыся. Пытанне пра камсамол прыдуманае наўмысна, каб збянтэжыць. Кіруюся да выхаду, наўздагон чую сцішанае:

— Выходзіць нельга, заставайся тут.

І голаснае:

— Наступны!

Ля пакоя людзей сабралася ладна. Усё паўтараецца. Пытанне. Адмова. Пасля згода і нязмушаны палёт долу. Ужо я рагачу з чарговага небаракі. Гэта выглядае кампенсацыяй за фізічны боль ды нядаўнія маральныя пакуты. Я не крыўдую. Ніхто не крыўдуе. Усе ўдзячныя. І я ўдзячная і тады, і цяпер не толькі за ўдалую спробу змагання з лагерным сумам ды адметны ўспамін. Боль даўжынёю ў чвэрць гадзіны быў варты таго, бо раз і назаўсёды перaканаў мяне ніколі не ўвязвацца ў гульні, з правіламі якіх нязгодная, нават калі сам працэс абяцае быць надта цікавым.

«Знайшла пра што ўзгадваць, — абурана прабурчыць нехта. — Вунь на вайне людзям рукі-ногі адрывала — і нічога, жылі, а ты па пабітай срацы плачаш!» Ды я б забылася з радасцю! Дык не даюць жа! Колькі людзей дасюль пакутуюць ад таго самага — вы проста сабе не ўяўляеце! Асабліва цяжка ўвосень, напярэдадні ўгодак камсамолу, калі з'яўляюцца яны — два прывіды, варта толькі ўключыць тэлевізар ці зайсці ў найбліжэйшы ДК. Сівы дзед у зеленавата-шэрым строі, колішні кіраўнік гаркама, задаволены тым, што хоць раз на год займеў поўную залу вольных вушэй. Сваім выглядам ён нагадвае старога вужа, які на Узвіжанне грэецца ў апошніх восеньскіх промнях. Спярша вітае прысутных, доўга хваліцца ўласным жыццём, пакладзеным на цяжкую працу ў гаркаме, пры канцы наракае: маўляў, няма таго, што раней было — паўсюль адны танцулькі і забаўкі, а ў былыя часы без накіравання з камсамолу нават на рабфак паступіць было нельга! Потым на сцэну ўзнімаецца яна — вызвалены камсорг нейкай дробнай канторы, канца 80-х, чалавек з вялікай будучыняй у мінулым. У маладосці надта лёгкая на ўздым студэнтка — завочніца, аматарка турзлётаў, будатрадаў, халяўных бяседаў. Цяпер — паклычаная часам хударлявая цётачка-дзяўчынка з чэзлым хвосцікам валасоў на патыліцы, у самавязаным швэдрыку, скалупаным з рознакаляровых лапікаў яшчэ падчас заняткаў у гуртку «Умелыя рукі». Кіраўнічка казала — прыгожа... Жыццё і прадмова на дзве часткі падзеленае. Спярша будатрад, турзлёт, 7 лістапада, вочы блішчаць спрабуюць. Пасля згасанне камсамолу, змушанае вяртанне да простай чалавечай працы на фабрыцы ці ў бібліятэцы. І няма ўжо, то й не будзе, ні будатрадаў, ні злётаў, ні абяцанай пасады ў райкаме. А неба на зямлю не абрынулася, сонца як свяціла, так і свеціць! Нават моладзь ідэйная ў майках з надпісам «БРСМ», што сядзіць у першых шэрагах, не бачыць у яе асобе жывой легенды, а гуляецца ў тэлефоны і рагоча. На тле няўдалага хэндмэйку канца мінулага стагоддзя кітайскі шырспажыў глядзіцца прынцэсіным уборам.

Толькі я не смяюся, разумею і спачуваю. Лясную той камсамол, і камсорг разам з ім ляснулася, толькі значна мацней, чым я падчас незабыўнай дзіцячай гульні ў кубанскім летніку — яна ж сядзела куды вышэй і была старэйшай гадкоў на дванаццаць! Ляснулася так, што чвэрць стагоддзя мінулася, а боль у заднім мосце так і не сцішыўся.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Яшчэ раз аб беларускіх грошах

**Вінцэсь Мудроў**. Фельетон.

*Рубель — тоўстая жэрдка, якой уціскаюць на возе сена, снапы, салому і пад.*
*Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Том 4, стар.719.*

Яшчэ за савецкім часам пачуў камічную гісторыю пра аднаго калгаснага старшыню. Старшыня той паехаў у вобласць на семінар кіраўнікоў аграсектару, звечара выпіў з калегамі і ўвесь семінар пакутаваў ад пахмельнай млосці. Па абедзе яго пацягнула на сон, але вось, пачуўшы, што п'янчуг і нядбальцаў трэба біць рублём, знянацку ачуўся, пажвавеў і нават пазначыў гэты момант у сваім нататніку.

Наступнага ранку, вярнуўшыся ў сваю сельгасарцель, старшыня рашуча тупаў па вясковай вуліцы, а ўглядзеўшы ў прыдарожнай канаве сукаваты рубель, падхапіў яго і так, з даўгой жардзінай на плячы, зайшоў у калгасную кантору. Пры гэтым здзёр пярэднім канцом парык з галавы сакратаркі, якая кінулася адчыняць дзверы, а заднім канцом падрапаў твар сакратару ЦК КПСС Капітонаву на стэндзе членаў Палітбюро. І не толькі твар, але і само прозвішча, у выніку чаго Капітонаў ператварыўся ў Пітонава.

Убіўшыся ў кабінет, старшыня паставіў сукаваты рубель у кут, побач з пераходным Чырвоным сцягам, і загадаў сакратарцы выклікаць да яго механізатара Капітановіча, які на тым тыдні ехаў на трактары праз раку і кульнуўся з моста.

Капітановіч, вядомы на ўсё акругу п'янюга, увайшоў у кабінет безтурботнай хадой, з папіросінай у зубах, з агідаю трымаючы ў выпрастаных пальцах аркуш паперы. Гэта была заява на звальненне. Трактарыст іх пісаў пасля кожнага свайго п'янага выбрыку. Механізатараў у калгасе бракавала, а таму старшыня кожнага разу браў той выдзерты з журнала тэхнікі бяспекі лісток, але не падпісваў. Але гэтым разам, нават не зірнуўшы на заяву, гаспадар кабінета схапіў рубель і з усяго маху заехаў п'янтосу ў лабешнік. Небарака паваліўся на падлогу, папоўз да дзвярэй і атрымаў па карку. Старшыня гнаўся за ім да самага парога. І не толькі за механізатарам, але і за сакратаркай, якая, пабачыўшы раз'юшанага шэфа, таксама рынула да выхаду. Сакратарка з механізатарам разам спатыкнуліся на парозе, пакаціліся з высокага ганка і потым, падхапіўшы з-пад ног згубленыя аблавух і парык, прычым сакратарка з перапуду нацубіла аблавух, а механізатар той самы жаночы парык, разбегліся ў розныя бакі.

Вусцішная гісторыя гэтая згадалася, калі пасля чарговага абвалу рубля я атрымаў нішчымную пенсію і мыліў вуснамі, пераводзячы яе ў даляры. Згадаў не проста так, а з поўным усведамленнем таго, што ўсе сённяшнія фінансавыя праблемы сканцэнтраваныя ў самой заганнай назве беларускіх грошай. Бо яна, назва, не проста двухсэнсоўная, але ў граматычным плане даволі недарэчная.

Нашы браты па няшчасці, выходзячы, а хто й выпаўзаючы, са складу Савецкага Саюза, назвалі свае грошы дарэшты лапідарна і абапіраючыся на гістарычныя традыцыі. Літ, лат, лей, сум, сом, лары, драм... Паколькі ў нас сваёй гісторыі не толькі не ведаюць, але і баяцца, беларускія грошы назвалі беларускім рублём: 15 літараў плюс прагал. Паспрабуй, змясці такую колькасць літар на *scoreboard exchange* у якой-небудзь Маскве. Ці не таму ў маскоўскіх абменніках іх адмаўляюцца прымаць.

Наогул, слова «рубель» — размова, вядома, не пра сукаватую жэрдку, а пра грошы, — жывасілам прыцягнутае з расейскай мовы. У Сярэднявеччы грошы ў Расеі, у адрозненне ад Еўропы, не адбівалі, а секлі, парасейску «рубілі». Беручы пад увагу такую этымалогію, наш рубель, на добры лад, варта назваць секелем.

Мяне, вядома, могуць упікнуць. Маўляў, шапялявыя людзі будуць называць грашовую адзінку «шэкель», і ўзнікне блытаніна з валютай Ізраіля. Аднак ці варта з-за таго лагапедычнага дэфекту адмаўляцца ад такой красамоўнай і арыгінальнай назвы.

Пагадзіцеся, куды зручней трымаць у руцэ не сукаватую жардзіну, а паўнавартасны секель. Ды і апівуды разам з тымі, хто раней гнаўся за даўгім рублём і якіх увесь час ганілі на старонках друку, уздыхнуць з палёгкай, бо як ты іх паб'еш секелем? І, галоўнае, курс беларускай валюты, які цяпер падае, будзе стаяць так, як яшчэ ніхто і нідзе не стаяў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Палітык Мікола Статкевіч правёў пікет у цэнтры Мінска з патрабаваннем свабодных выбараў. На сустрэчу сабралася каля 200 чалавек. На экс-кандыдата склалі пратакол, але нікога не затрымлівалі. Статкевіч заклікае на чарговы выбарчы сход 23 верасня а 18-й гадзіне. Палітык будзе сустракацца з выбаршчыкамі на плошчы Свабоды ў Мінску.**



TUT.BY

**На Дзень горада ў Мінску адбыўся паўмарафон, у якім узяло ўдзел больш за 19 тысяч чалавек.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У Жодзіне на праспекце Міру зрабілі клумбу-вышыванку.**



СЯРГЕЙ ГРЫЦ, FACEBOOK.COM

**«Сустрэў на дарозе. «Патрыёт». Гэта машына так называецца, а за кіроўцу гаварыць не буду».**



НАСТАССЯ УЛАСАВА

**У Мінску запрацаваў Музей ката. Мастацкая галерэя, цалкам прысвечаная катам, знаходзіцца па адрасе пр. Дзяржынскага, 11. У ёй жа жывуць і сапраўдныя каты.**



**Вясельны фатограф з ЗША ператварыў славутую ружова-гламурную лялькту Барбі ў хіпстара — звычайнага карыстальніка сацыяльных сетак. За яе прыгодамі назірае больш за мільён чалавек.**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Што б вы памянялі, каб адправіліся ў мінулае?

— Рублі.

* * *

Калі дзядуля задзьмуў 90 свечак з першай спробы, унукі зразумелі, што чатырохпакаёўка ў цэнтры Мінска вызваліцца няхутка.

* * *

Кожны раз, калі ты прамаўляеш у слухаўку «гэта не тэлефонная размова», недзе сумуе адзін кадэбіст.

* * *

Сёння спытала мужа, чаму ён больш не кажа, што кахае мяне. Адказаў, што пасля таго, як я разбіла яго машыну, сам факт, што я да гэтага часу жыву ў яго доме, ужо служыць доказам яго гарачага кахання.

* * *

Абажаю чытаць гараскопы. Гэта адзінае месца, дзе ў мяне ёсць грошы, падарожжы і ідэальныя адносіны.

* * *

Ты кажаш, што ніколі не быў шчаслівы, але ж я бачыў у цябе ў тэлефоне будзільнік на 14:00.

* * *

Адзіны чалавек у горадзе, хто можа сабе дазволіць ездзіць на «Ягуары», — гэта вартаўнік заапарку.

* * *

Тэлефануе жонка мужу:

— Здароў, ты калі будзеш дома?

— Недзе а шостай.

— Выдатна! Да нас якраз прыехалі мае бацькі і...

— Ой, я забыўся сказаць, што ў нас тут быў пажар на працы, і мы ўсе загінулі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Нядаўна на станцыі Вільня** поезд пераехаў старца, які ішоў рэйкамі. Калі яго даставілі ў бальніцу, то дазналіся, што гэта былы ковенскі гарадскі галава. Ён збядneў і, не маючы з чаго жыць, на сёмым дзясятку свайго жыцця пайшоў жабраваць.

**«НН». №38. 1910.**

**Паводле дэкрэта** Аляксандра Лукашэнкі, умовы вытворчасці, продажу і рэкламы алкаголю стануць больш жорсткімі. Гандляваць ураздроб алкаголем можна будзе толькі ў крамах, плошча гандлёвай залы ў якіх не меншая за 50 м².

**«НН». №34. 2005.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 15.09.2015.
Замова №3608.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614




9 771819 161008 15034